

*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*

# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 26 кастрычніка 1990 г. № 43 (3557) ● Цана 10 кап.


# СКУЛЬ, ЯКОГА МЫ РОДУ?

**Значнасць адной падзеі міжволі засціць важкасць другой: Купалавы «Тутэйшыя» — на сцэне тэатра-юбіляра, тэатра імя песняра!**

**Мабыць, свята сямідзесяцігоддзя Купалавага тэатра азавецца ў гісторыі рэспублікі доўгачаканым святам яе духоўнага жыцця, — святам вяртання «Тутэйшых», — тых і не тых...**

**Рэжысёр Мікалай Пінігін штучна не асучасніваў герояў Купалавага твора, ды спектакль сваім мастацкім уплывам на сённяшняга беларуса можа даць плён куды больш важкі за мітынгі і парламенцкія спрэчкі: плён роздуму, асэнсавання, разумення...**

Сваімі ўражаннямі ад спектакля дзеляцца крытык Барыс Бур'ян і гісторык Анатоль Сідарэвіч (стар. 2—3).

## *Скуль, якога мы роду?*

### КУПАЛАВЫ «ТУТЭЙШЫЯ» — НА КУПАЛАВАЙ СЦЭНЕ

# З-ПАД СОНЦА ПАГЛЯДЗЕЎШЫ...

**Сучаснае прачытанне п'есы, якую дзесяцігоддзямі не пускалі на сцэну**

...ЧОРНЫЯ анёлы, набліжаючыся да авансцэны, раптам расхінуць сутарэнне, падобнае да бездані пекла. Агнёвыя водбліскі. Клубы дыму. Сімвал жудаснага прывіду смерці як пакарання. І туды, у пякельнае прадонне, паваляцца асуджаныя часам і падзеямі людзі з так званых «былых» — дама з колішняга вышэйшага свету, спраўнік, поп і пан; затрымаецца перад прорваю зусім светлы чалавек— Янка Здольнік.

З яго вуснаў сарвецца: «Я— пралетар...» Здаецца, гэта тое, што трэба і чаго чакалі ад яго людзі ў шлемах з чырвонай зоркай, асабліва начальнік патруля ў камісарскай скуранцы з парабелумам на баку (кажуць, такую форму мінчукі ўпершыню ўбачылі на агніста-бальшавіцкім камісары А. Мяснікове ў 1918 годзе). Здаецца, прызнанне сваёй пралетарскай далучанасці да класа-гегемона выратуе і захавае жыццё адукаванага культурнага беларуса, і чорныя хмары вакол яго не бліснуць смяротнай маланкай.



В. МАНАЕЎ (Мікіта Зносак) і М. ЗАХАРЭВІЧ (Ганулля Зношчыха).

Зірнуўшы нам, гледачам, у вочы, Янка Здольнік прамовіць акрылена-нязгаснае Купалава: «Мне сняцца сны аб Беларусі», — і стрэлам яму ў патыліцу той патрульны ў камісарскай скуранцы абарве і сны, і жыццё звестуна светлай надзеі.

У гэтае імгненне раптам узнікне асацыятыўны ўспамін: Курапаты! Ці не тады, яшчэ ў дваццатым годзе, пачалося тое, што цяпер азначае для нас страшнае і павучальнае паняцце: Курапаты...

Янка Здольнік неяк пераломліваецца, кулём валіцца ў чалеснікі пекла. І зараз жа ўзнікае ўяўленне: ці не так зваліўся (а мо быў скінуты) у прасвет мармуровай лесвічнай клеткі гасцініцы «Масква» шостага чэрвеня сорак другога года Янка Купала...

Чалавек гіне за тое, што жыве і спавядае прынцыпы, якія ўлада хоча вытруціць, знішчыць. Лёс эліты нацыі. Галубка і Галавача, Гарэцкага і Мікуліча... Ахвяр не пералічыш!

Не, тэатр не акцэнтуе падобныя асацыятыўна змястоўныя мясціны спектакля «Тутэйшыя». Мастацкія выразныя сродкі — ад мізансцэн і да інтанацыі ў голасе таго або іншага персанажа, ад кідкай дэталі ў касцюмах і да зараджанай патэнцыяльна вялікім метафарычным сэнсам сцэнаграфіі — падначалены ўсё ж выяўленню жыццёвага зместу і надзённага гучання самой п'есы Янкі Купалы. Надзвычай сугучная яна нашым дням. І сам глядач з тых творчых імпульсаў, што выпраменьвае сцэна, свядома або інтуітыўна, складае асацыяцыі і робіць параўнанні таго, што «было», з тым, што «ёсць» сёння ў нашым грамадстве, якое сутаргава шукае адказу на пэўныя спрадвечныя пытанні.

Напрыклад, на некалькі хвілін сцэнічнага часу рэжысёр М. Пінігін і выканаўца ролі Мікіты Зносака В. Манаеў затрымліваюць нашу ўвагу на тым, як чалавек балансуе паміж рознымі палюсамі з бутэлькай гарэлкі ў адной руцэ, з пісталетам — у другой. Па сюжэтных абставінах гарэлка і пісталет тут маюць зусім рэальную бытавую службовую ролю. Ды яшчэ ўспрымаецца і эмацыянальна вобразная сутнасць гэтага: у віхуры рэвалюцыі і вайны чалавеку часта даводзіцца або жыць, ап'яняючы сябе нейкай выратавальнай па ягоных уяўленнях ідэяй, або са зброяй у руках выбіраць, у якім «стане-лагеры» адваёўваць сваё месца пад сонцам.

Сам Мікіта Зносак гатоў хмялець ад усялякай атруты— хоць ад вялікадзяржаўных імперскіх забабонаў, хоць ад самых лявацкіх мяцежных заклікаў, хоць ад ідэі ўсеагульнай сацыяльнай роўнасці, абы толькі яму выжыць у чарговай «палітычнай сітуацыі», абы здабыць для сябе выгоды жыцця. Ён і кайзераўскія войскі будзе вітаць на галоўнай плошчы ў Менску. Яму і польскія жаўнеры не так захопнікі ці акупанты, як новая сіла ў зменлівай палітычнай сітуацыі, да якой яму трэба тэрмінова прыстасавацца. Прайдзісвет-прыстасаванец, ён жыве ў ілюзорным свеце, гатовы адрачыся і ад брата і ад свата, падманвае самога сябе, вярзе абы-што, кожны раз апантана амаль прымушаючы сваё «я» верыць у вонкавую справядлівасць самых розных дэкларацый, маніфестаў, гістарычных і філасофскіх абгрунтаванняў, якімі засланяе свае сапраўдныя намеры пануючая ў гэты час улада. Яго спакушаюць прыхільнікі і заходняй арыентацыі для Беларусі, і ўсходняй, зацятыя ахоўнікі вялікарасійскіх імперскіх амбіцый і ўтрапёны рэвалюцыяніст, што наважыў разбурыць ушчэнт існуючы свет і лад... Перакаці-поле Мікіта Зносак. Жадлівы да спакуслівай атруты, хмялеючы ад якой, ён спадзяецца пры ўсялякай уладзе займець поспех.

Бутэлька і пісталет...

Мізансцэна, умоўна кажучы, «з бутэлькай і з пісталетам» замацоўвае тэатральную трактоўку вобраза і адначасова падштурхоўвае глядацкае ўяўленне аб пэўным тыпе чалавека. Тыпе ўзорнага «тутэйшага» абывацеля, здатнага ману ў вочы пускаць. Сабе і людзям.

Такіх уражлівых мізансцэн у спектаклі М. Пінігіна мноства. Яны ўзбагачаюць аблічча тых дзейных асоб, якія па-акцёрску тэмпераментна і жыва ўвасоблены захопленымі купалаўскім творам артыстамі. Захопленымі не адно толькі тым, што нарэшце ў святло сталічнай рампы ўзышлі героі так доўга забароненай п'есы (хіба можна лічыць сцэнічным жыццём пастаноўку «Тутэйшых» В. Маслюком у Магілёве ў 1982 годзе, якую ў Мінску тады паказаць «дазволілі»... адзін раз). І не толькі прыгоды і здарэнні з жыцця Мікіты Зносака ды Янкі Здольніка хвалююць тых, хто аддае гэтаму спектаклю энергічнае намаганне, каб стварыць сапраўды сучаснае тэатральнае відовішча. Ёсць у ім высокі творчы пафас.

У чым жа ягоная сутнасць?

На маю думку, «Тутэйшыя» на сцэне ў кастрычніку дзевяностага года адказваюць на адно вельмі глыбакадумнае для беларусаў пытанне Янкі Купалы. На пытанне, якое ідэалагічныя цэрберы доўгі час абвяшчалі і правакацыйным, і крамольным, і нявартым, і нежыццёвым. На ўвесь голас паэт выказаў яго ў 1911 годзе ў вершы «Як спытаюцца ў нас».

**Прыйдуць людзі з Усходу,**
**Прыйдуць з Захаду людзі —**
**І спытаюцца нас:**
**Скуль, якога вы роду?**
**Дзе зямля ваша будзе,**
**Дзе айчызна у вас?**

Ці трэба тлумачыць, што гэтым пытаннем паэт узбуджваў нанова нацыянальна-патрыятычную свядомасць у чулых і заклікаў адумацца тых суайчыннікаў, якія трацяць або глушаць гэтую свядомасць, ці не наўмысля робяцца «тутэйшымі», губляючы тым самым у саміх сабе пэўныя духоўныя і маральныя гарантыі развіцця ўласнай асобы, яе годнасці. І абражаюць тым самым сваю ж нацыю. Тое, што наканавана беларусу (як і рускаму або кітайцу, туркмену або шведу), не зробіць гатовы на цырлах клыпаць перад усялякім начальствам «тутэйшы». Тое, з чым прымірыўся такі тутэйшы, наадварот, будзе чужым і нават варожым свядомаму беларусу.

**Невыпадкова ж у спектаклі купалаўцаў Мікіта Зносак спачатку выклікае ў нас нават нешта падобнае да спачування: во якая навала абрынулася на Менск і ягоных жыхароў — акупацыя, змена вайсковых рэжымаў, рэвалюцыйныя пературбацыі. Толькі паспявай круціцца, каб тваю хату не абрабавалі, цябе кудысьці не мабілізавалі, штосьці ў цябе не экспрапрыіравалі, а далі б які «паёк» або права гандляваць, яшчэ лепш — пасаду... Артыст В. Манаеў з дзівосным акцёрскім тэмпераментам і з поўнай заглыбленасцю ў характар жыве ў вобразе Зносака, прымаючы, а дакладней сказаць — нацягваючы на самога сябе аблічча то «пана», то «грамадзяніна», то «таварыша». Вонкава плакатныя прыёмы ён па-сапраўднаму абжывае і таму віртуозна атрымліваюцца ў яго самыя нечаканыя метамарфозы. Нават сцяг, які Зносак то з ліслівай пашанай вітае, то робіць звычайнай анучай, упісаны акцёрам у шэраг жывых і жыццёвых адзнак пэўнага часу і таму набывае зноў жа па-сцэнічнаму кідкі вобразны сэнс. (Я параўнаў бы В. Манаева з няўрымслівым Андрэем Міронавым, якім мы запомнілі гэтага цудоўнага майстра пераўвасаблення на гастролях улетку 1985 года...)**

«Скуль, якога вы роду?» — пытанне, якое будзе хваляваць і тое немаўля, калыска якога на самым пачатку спектакля цешыць і саграе рукі Ганулі Зношчыхі. Звычайная кабета, яна і не падазрае, не можа ўцяміць таго, што нам па-тэатральнаму канкрэтызавана паказвае спектакль: над калыскай ужо схіліліся анёлы — белы і чорны, да яе спяшаюцца і ксёндз, і поп. Мы разумеем, што так М. Пінігін увасабляе думку аб тым, што і малое дзіця ўспрымае на самым пачатку свайго лёсу тыя добрыя (ад белага анёла) або злыя (ад чорнага) імпульсы, якія паўсюдна, так бы мовіць, лунаюць вакол кожнага жывога стварэння і робяць, бывае, важны для далейшага станаўлення асобы тэлепатычны ўплыў. Ты яшчэ і слова не прамовіў, а вакол цябе такія палітычныя, рэлігійныя, вайсковыя і звычайныя бытавыя страсці віруютьца! Хваравітыя, неспагадныя.

Таму мы смяёмся з Мікіты Зносака, калі ён са сваім запазычаным у чыноўнікаў мясцовай адміністрацыі «между протчым» кідаецца ўвесь час яшчэ і паняццем «палітычная сітуацыя». Гэта яна, маўляў, уладарна дыктуе чалавеку ягоную мараль, ягоныя ўчынкі, нават лад меркаванняў аб сабе і аб свеце. Такім чынам, робячыся «тутэйшымі» па перакананнях, гэты мінчук здымае з сябе асабістую адказнасць за сваю чалавечую сутнасць. Балбатун, прайдзісвет, махляр, дэмагог, гатовы дзеля ўласнага спакою падымацца на дыбы і ехаць бачком, па-халуйску цалаваць сцяг любога колеру, — ці ж такім быў народжаны, быў створаны чалавек!

Цяпер мы чытаем у часопісе «Спадчына» перадрук тае публіцыстыкі, з якой выступаў у тыя ж самыя часы, калі адбываюцца падзеі ў ягонай п'есе «Тутэйшыя», Янка Купала. Драма перакладае асобныя тэзісы і агульнамаральную пазіцыю паэта-патрыёта, паэта-змагара на мову сцэнічных вобразаў. У «Тутэйшых» можна вычытаць і трагедыйны крык пра фатальны характар чалавечага падзення, калі чалавек свядома і спакусліва ператвараецца ў тутэйшага, грэбуе сваім прыродным прызваннем і прызначэннем. Можна бачыць у п'есе і камедыю, дзе смех праз слёзы сягае на вяршыні сапраўды сатырычнага сарказму. Драматург нібыта ўзняўся над побытавай рэальнасцю, паглядзеў на заўзятую мітусню людзей, уцягнутых у вір вялікіх пераваротаў і катастроф, з гары. Як на мурашнік. Ён нібы абстрагаваўся ад уласных перажыванняў, забараніў сабе быць тут лірыкам, і стварыў мастацкі эквівалент таго, што адбывалася на Беларусі на рубяжы 20-га года. Ёсць у такім мастакоўскім падыходзе драматурга да вобразнага ўвасаблення пэўнай явы штосьці ад Шэкспіра.

Мо я перабольшваю, але на тое мяне настройвае спектакль. І прыгадваецца зноў жа Купалаў верш, на гэты раз чатырнаццатага года — «Крыж на скале»:

**Закалыхаўся ястраб быстравокі,**
**Між небам і зямлёй, як лунь, завіс —**
**Мяне і дзень мой сочыць адзінокі,**
**З насмешкай мерачы вачамі ніз.**

**О, каб ён вылушчыў душу мне з цела**
**І затрымаў на хвілю ў высях,**
**Каб раз, адзін раз толькі паглядзела**
**Адтуль, з-пад сонца, на зямны свой шлях!**

Драматургу часам удаецца, як той душы, па-творчы ўзняцца і затрымацца на хвілю ў высях, і адтуль, з-пад сонца, ён бачыць не прыземлена рэалістычныя малюнкі, а праўдзівую мітусню людзей. Сучаснасць разглядаецца, як цяпер кажуць, у кантэксце гістарычнага руху. А мы, людзі, як павялося здавён, дамагаемся тут, на зямлі, і сёння асабістага поспеху, імкнучыся ўладкавацца як мага выгадней, свядома ці машынальна парушаючы пры гэтым такія прывабныя для нас высокія ідэалы. Тайнае адчуванне бессаромнасці, што тады пануе ў тваёй душы, ты заглушваеш самападманнымі спасылкамі на «палітычную сітуацыю», на тое, што «так усе робяць», што для сучаснага чалавека нават крыўдна быць «белай варонай» са сваёй далікатнай чэснасцю. Самым суцяшальным бывае знайсці пэўную сацыяльную дактрыну і мараль, асабліва тую, што заганяе нас у аглоблі, і спасылацца на тое, што служэнне ёй вымагае пэўных маральных страт, на якія ты ідзеш, каб быць на ўзроўні часу і пануючай атмасферы. Такія страты — дапушчальны, маўляў, і нават непазбежны спосаб экзістэнцыі.

Паколькі да тае пары, калі мастака-паэта пакліча да свяшчэннай ахвяры Апалон, ён і сам круціцца ў тым жыццёвым коле і бывае нават празмерна заангажыраваным усё той жа «палітычнай сітуацыяй», яму і варта ў сваім творчым уяўленні ўзнімацца ў высі і спрабаваць з-пад сонца глядзець на свой і сваіх сучаснікаў шлях. Тады і смяяцца з таго, што здаецца тут, на зямлі, вартым жалю і спачування, слёз і тугі, можна, бадай, смела.

Такая мастакоўская смеласць уласціва п'есе «Тутэйшыя».

Такая ж смеласць вылучае і рэжысуру спектакля: М. Пінігін упэўнена і па-творчы свабодна ўбірае ў арсенал відовішча элементы батлейкі і скамароства, псіхалагічна побытавай сцэны і тэатра палітычнай маскі, карыстаецца адкрыццямі Б. Брэхта і «сістэмай Станіслаўскага». Густ і адчуванне меры гарманізуюць такі стракаты набор традыцыйных сцэнічных прыёмаў. І мы ўспрымаем як нешта натуральнае ў цяперашняй тэатральнай версіі п'есы наяўнасць тых самых анёлаў, як і тое, што ўсёпаглынальнае палітычнае «зло», якое баламуціць прыкрую «сітуацыю» жыцця, увасоблена фактычна адным акцёрам (У. Кін-Камінскі з зайздросным артыстычным імпэтам захоўвае сваю першапачатковую непасрэдную захопленасць «маскай» — тым жаданым дэманам тэатра, паводле Д. Стрэлера, цуду-тэатра, дзіва-тэатра,— дэманам, які ў наш час не так часта паўстае на падмостках). З аднолькавым гарэзлівым і ўпартым станам свайго натхнення апранае акцёр шынель і каску кайзераўскага афіцэра, канфедэратку польска-

га патэнцыяльнага «маршалка» і картуз таго камісара ў скуранцы і з парабелумам, які не вагаецца, каб знішчаць усіх, хто «не з намі».

**Дарэчы, на спектаклі я асабіста ўпершыню ўсвядоміў, што і сам сябе, бывае, адчуваю... тутэйшым. Мне ж з дзіцячых гадоў тлумачылі, што я — савецкі школьнік, савецкі чалавек, савецкі служачы. Патрабаванне ўсведамляць сябе наогул савецкім чалавекам патурала і маім «тутэйшаўскім» схільнасцям. Хай Мікіта Зносак выглядае на сцэне гратэскным фіглярам і пачварным гульцом, я пазнаю ў асобных ягоных прыстасаваннях да актуальнай палітычнай сітуацыі штосьці знаёмае і мне, *і маім калегам, маім таварышам-сучаснікам*. Прыгадваю, напрыклад, як на спецыяльным сходзе мы слухалі прамоўцаў, якія ўзнімалі на літаратурны Алімп сацрэалізму трылогію адданага ленінца Леаніда Ільіча, і апладзіравалі (хай і не надта горача), і ніхто з нас не бразнуў абурана дзвярыма і не пакінуў залу. А надрукаваныя ў тагачасным «ЛіМе» па загаду з высокага гмаха (а мо і з Масквы, з Крамля) урыўкі з тае трылогіі вычытваліся ў нашай карэктарскай адказнымі рэдактарамі, бо крый Божа — праб'еццa ў тым «класічным» тэксце якая друкарская памылачка!**

**Ці ж гэта не рабалепства тутэйшых!**

Спектакль можа абуджаць і сумленне, і сорам, бо ў тэатральным плакаце жыва пульсуе нешта хвіліннае, уласцівае зусім пэўнаму часу і акрэсленым сітуацыям, і нешта спрадвечнае, агульначалавечае. У гэтым заслуга, безумоўна, Янкі Купалы, які стварыў арыгінальную драму трагікамедыйнага жанру. Заслуга і рэжысуры. І В. Манаева, які стаў цэнтрам энергетычных імпульсаў на скрыжаванні праўды жыцця і праўды сцэнічнага мастацтва.

На такім самым узроўні творчай смеласці выступаюць яго партнёры. Звярніце ўвагу на адкрыта батлеечныя постаці старарэжымных паноў, якія выводзяць на падмосткі Н. Качаткова, А. Памазан, І. Дзянісаў і В. Паўлюць. Яны абкарыкатураны дарэшты! І натуральна выглядаюць у агульным ансамблі. Я павіншаваў бы з арганічнымі паводзінамі ў даволі складаных жанравых умовах сцэнічнага жыцця Г. Давыдзьку і Ю. Авяр'янава (адзін—вучоны з Усходу, другі — з Захаду). А колькі грэшнай абаяльнасці ў А. Сідаравай у ролі Насты Пабягунскай, гэтай жаночай іпастасі гуллівага палітыкана Зносака! Аддадзім належнае і В. Філатаву ў ролі Генрыха Спічыні: ён паказвае ўзор цынічнага прыстасаванца, які народзіць д'ябла і паставіць акуляры каму хочаш. Пляце любую непадсяваную палітычную лухту. Гэткі дэмагагічны ветранік ад прыроды!

У такім, скажу яшчэ раз, паплакатнаму кідкім хаўрусе выканаўцаў роляў самае складанае становішча ў А. Лабуша ў ролі Янкі Здольніка. Разам з рэжысурай акцёр знаходзіць жывыя інтанацыі, каб выявіць прывабную грамадскую цнатлівасць гэтай асобы, і не засяроджваецца на ідэалізацыі носьбіта станоўчага аўтарскага ідэала ў п'есе. Ягоны Янка Здольнік жыве нармальным духоўным жыццём. Ды толькі штосьці і яму прыкра ў самім сабе, а гэткі настрой інтэлігентнай саманезадаволенасці знаёмы толькі сапраўды сумленным людзям. Чым жа ён не задаволены? У нейкія хвіліны споведзі і дэкларацыйных абвестак герой А. Лабуша раптам адчувае, што ў тым палітычным гармідары, які вулканічна шуміць у тым жа Менску, і ягоныя высакародныя словы могуць успрымацца натоўпам і асобнымі людзьмі як чарговая дэмагогія, абяцанка справядлівасці, нават правільнасці. Тады ж казань і выслухоўваецца без асаблівага даверу, а споведзь успрымаецца самасуцяшальнай мовай. Не ведаю, якім чынам дасягае такога эфекту ў ролі А. Лабуш, але затое ягоны Здольнік не выпадае з агульнага малюнка спектакля і не пераступае мяжы адкрытага рэзанёрства. У мяне нават з'явілася ўражанне, быццам прыблізна такім бы ўбачыў сябе сам Янка Купала ў Менску 1919 года адтуль, з-пад сонца, — беларускім праўдалюбам, які з высакароднай цнатлівай наіўнасцю падпісваў некаторыя свае творы псеўданімамі «Марка Бяздольны» або «Здарэнец» ці «Янук з-пад Менска».

У спектаклі царуе спалучэнне талентаў, якое гартуецца вакол агульнай ідэі і працуе ва унісон. Мабыць, як і акцёры з рэжысёрам у адстойванні права на сучаснае тлумачэнне «Тутэйшых», утрапёна шукалі адпаведных фарбаў і гукаў сцэнограф Б. Герлаван і кампазітар У. Кур'ян.

Вядома, што індывідуальная свядомасць памыляецца часцей, чым агульначалавечае самаразуменне. І памыляецца менавіта тады, калі чалавек спяшаецца атрымаць ад сваіх паводзін адчувальную выгоду-карысць у мімалётныя для гісторыі імгненні, якія мы схільны называць «палітычнай сітуацыяй», здатнай збіць рогі якому хочаш праўдалюбу. Ці не феномен такой памылкі індывідуальнай свядомасці ў вельмі надзённым пытанні пошукаў нармальнай справядлівасці, якое сёння трывожыць наша грамадства, і даследуе сваімі тэатральнымі сродкамі купалаўскі спектакль! Ягоная трагедыйнасць часцей перакрываецца камедыяй, фарсам і нават балаганам. (Хіба мы самі не бываем цяпер сведкамі (асабліва з дапамогай тэлевізійнай шкляной скрыні ў нашых кватэрах) і ўдзельнікамі нібыта вельмі сур'ёзных сварак, дыскусій, дыспутаў, ідэалагічных боек і адлупаў, пра якія мы ж самі пазней і кажам з крыўднай і пякучай іроніяй: балаган! Жахліва трагічны, амаль катастрафічны, але—балаган). Нас суцяшае, што, назваўшы балаганам сітуацыю, якая вызваліла з-пад нашага кантролю вышэйшай чалавечнасці нашы прагавітыя або помслівыя, крывадушныя або зайздросныя інстынкты, мы можам ачысціцца, пакаяцца, пазбавіцца ад адчування ўласнага граху і асабістай недасканаласці. Што ж, дзякуй лёсу і вышэйшай волі за тое, што яны хоць такім адчуваннем адорваюць нас у цяперашнюю мітуслівую, поўную на небяспечныя для ўсіх вынікі пару. І спектакль купалаўцаў нагадвае нам пра гэта вельмі ўражліва і маляўніча, з добрым эмацыянальным напалам. Як наша надзея на тое, што разам з адраджэннем нацыянальнай свядомасці народа могуць аднавіцца і самыя каштоўныя духоўныя і маральныя якасці чалавечай асобы, успрымаецца і фінал гэтага відовішча.

...Чорныя анёлы з тае бездані-пекла, куды толькі што зваліўся забіты Янка Здольнік, цягнуць агніста-чырвонае палотнішча. След полымя. След крыві. У сустрэчным руху белыя анёлы раскручваюць белыя палотны. Сімволіка колераў па-сённяшняму надзённая і красамоўная! Тэатральны ж сэнс яе ў замірэнні ўжо дастаткова і празмерна пралітай крыві са светлымі спадзяваннямі на магчымы ўсцешаны наш заўтрашні дзень. Дзень, які гушкае тую калыску, вакол якой па-ранейшаму лунаюць белыя і чорныя імпульсы, рыхтуюць спакуслівыя прамовы рытары ад розных рэлігій і філасофскіх школ, трымаюць напагатове зброю вартавыя. І калыхаюцца на ветры ўжо блізкага дваццаць першага стагоддзя сцягі розных колераў... Які абраць? Той, што пацвердзіць, скуль, якога вы роду, дзе зямля ваша будзе, дзе айчына ў нас?..

Спектакль яскрава перадае істотна важную для нашага часу думку аб тым, што прагрэс у чалавечым грамадстве не дасягаецца коштам прымусу — рэвалюцыйнага або ваеннага, эканамічнага ці ідэалагічнага. *Крывавыя і прымусовыя сродкі* стварэння ілюзорна справядлівага ладу вычарпалі сябе. Людзям нельга далей жыць па законах «тутэйшых» абывацеляў, але ўсведамляць розумам усё гэта значна лягчэй, чым перабудоўваць сфарміраваную стагоддзямі «палітычную сітуацыю» і звычку падладжвацца да яе...

**Барыс БУР'ЯН.**

# ТУТЭЙШЫ ТРАГІФАРС

Сустрэў на прэм'еры лідэра «Талакі» Сяргея Вітушку. Выявілася, што ён нічога не ведае пра пастаноўку «Тутэйшых» у 1982 годзе: «Я тады ў школу хадзіў». *А я памятаю бітма набіты тэатр імя Янкі Купалы.* Помню, што ў зале сядзела шмат начальнікаў. Асабліва запомніў твар — усмешку на твары — Івана Антановіча, загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ. Усмешка — ветлівая, прыязная — гаварыла: спектаклю — не жыць! Збольшага ведаючы норавы партапарату, я *не памыліўся: спектакль забаранілі*, а пастаноўшчыка, Валерыя Маслюка, перавялі з Магілёва ў Мінск — каб не разво-



В. МАНАЕЎ (Мікіта Зносак) і В. ПАЎЛЮЦЬ (Абарванец).

дзіў крамолу на перыферыі, каб не рабіў з рускага тэатра беларускі.

Ці ведаў В. Маслюк, беручыся за пастаноўку «Тутэйшых» у Магілёве, што накліча на сябе гнеў? Прадчуваў. І таму не прыдумаў нічога лепшага, як узняць у канцы спектакля Дзяржаўны флаг БССР пад гукі Дзяржаўнага гімна Рэспублікі. Каго-каго, а Івана Іванавіча гэтым не купіш. Дый публіка была здзіўленая: ну, ніяк не стасуецца матэрыя і дух «Тутэйшых», матэрыя і дух «Адвечнай песні» (В. Маслюк скампанаваў гэтыя творы Купалы) з Дзяржаўнымі флагам і гімнам БССР! Мінскай публіцы хацелася іншага. Рэжысёру таксама. Таму асобныя *сцэны вырашаліся ў бел*-чырвона-белай гаме, але з дамешкам — дзеля падстрахоўкі? — зялёнага колеру. Публіку гэта не цалкам задавальняла. Не задавальняла й Івана Іванавіча.

Ведаю, што ёсць незадаволенасць і новаю пастаноўкаю, бо ў ёй Купала смяецца. Смяецца з народніцтва, з ідэалізацыі вёскі. Так, гэта *Купала пісаў*: «Я буду жыць, бо я мужык!» Але Купала ведаў і іншага мужыка, іншы бок яго натуры. Тыя самыя мужыкі на ўсе ўзнёслыя словы прарока адказалі пытаннем: «А колькі нам дасі чырвонцаў?» А ўспомніце баладу «Забытая скрыпка»... Гэта ён, Купала, называў сялян адродкамі Белай Русі. У «Тутэйшых» сялянская дачка Аленка (чаму ў спектаклі яе клічуць Алёнкаю?) скончыла віленскія настаўніцкія курсы, хоча вучыцца далей, а Янка Здольнік кажа ёй:

— На маю думку, найлепей пакуль што ехаць на вёску і там прывучваць да навукі людзей і самой ад іх вучыцца. Бо я таксама выязджаю на вёску.

— І вы? Ну што ж? На вёску дык на вёску! Нават хоць у пекла, калі вы параіце...

Матыў вёскі гучыць у спектаклі рэфрэнам. Адразу згадваеш чэхаўскіх гераінь, іхняе «У Маскву!» Дасягаецца эфект парадоксу, і пры чарговым успаміне пра вёску зала рагоча.

Купала смяецца. З Чарвякова («затрымаўся недзе за Менскам на папаску»), з Міколы Шылы, Тамаша Грыба, Язэпа Мамонькі. Дарма прапусцілі ў спектаклі рэпліку Аленкі пра Палуту Бадунову, якая «таксама едзе на белай кабыле з Смаленску». Тое, што Купала ставіць у адзін шэраг бальшавіка Чарвякова і эсэраў, мае сваё вытлумачэнне: эсэры ваявалі за Беларусь у цесным кантакце з бальшавікамі, атрымлівалі ад іх грошы. (Нагадаю, што ўсіх камуністаў на Беларусі і Літве было ў 1920 годзе 1700 чалавек, эсэраў — толькі актыўных — 5 тысяч; да таго ж пад уплывам сацыялістаў-рэвалюцыянераў знаходзілася Грамада моладзі — *больш за 10 тысяч чалавек*). Камуністы ваявалі з польскімі акупантамі рукамі эсэраў, а потым — у 1921 годзе «аддзячылі ім рэпрэсіямі. У 1922 годзе, у «Тутэйшых», Купала смяяўся з Бадуновай, Грыба і Мамонькі за іхнюю даверлівасць, палітычную блізарукасць, бо ён, прарок, бачыў, што праз бальшавізм Чарвякова *ды і інш. можна будзе*, як кажа Мікіта Зносак, «праводзіць у тутэйшую сярмяжную шацію вялікія руска-ісцінныя прынцыпы а ядынасці, непадзельнасці і самадзяржаўнасці Расійскай, между протчым, імпэрыі».

Трагічна-смяшлівыя (у праграмцы яны трагікамічныя) сцэны Янкі Купалы цяпер, з вышыні нашай гістарычнай дасведчанасці, рэжысёр Мікалай Пінігін разглядае як трагіфарс. Не ведаю, ці зразумее паспаліты глядач усю сімволіку спектакля, але з такім прачытаннем п'есы нельга не згадзіцца.

Купала смяяўся. Зала рагоча, калі сварацца Усходні і Заходні вучоныя (Г. Давыдзька і Ю. Авяр'янаў), зала рагоча, убачыўшы ў ролях розных акупантаў аднаго і таго ж артыста — У. Кін-Камінскага. Зала пасмейваецца з маналогаў і рэплік нацыянальна свядомага Янкі Здольніка (А. Лабуш), бо надта яны рытарычныя і нагадваюць маналогі некаторых сучасных маладых нефармалаў. Зала смяецца, калі Мікіта Зносак (В. Манаеў) праз сваю недавучанасць трапляе ў рукі Начальніка патруля (У. Кін-Камінскі). Наогул, трэба сказаць, што названыя тут артысты, а таксама М. Захарэвіч (Гануля Зношчыха), А. Сідарава (Наста Пабягунская), В. Філатаў (Генрых Мотавіч Спічыні), В. Паўлюць (Абарванец), З. Белахвосцік (Аленка) склалі добры ансамбль.

Купала прарочыў. Не толькі тады, калі вуснамі Зносака казаў пра «вялікія руска-ісцінныя прынцыпы», але і тады, калі ў самым канцы п'есы, паводле ягонай задумы, павінна была гучаць вядомая мелодыя з перайначанымі словамі:

**Ой ты, яблочко,**
**Куда коцішся?**
**Не туда попадзёш —**
**Не вароцішся...**

Лёс «яблычка» чакае і Мікіту Зносака, і Савецкую Беларусь Алеся Чарвякова. Так, мусіць, прачыталі гэтыя прыпеўкі цэнзары 20-х гг., і забаранілі пастаноўку «Тутэйшых» у БДТ-1.

У 1922-м Купала прадчуваў вялікую трагедыю. Пазней ён убачыць і смерць выкрутлівага Мікіты, і смерць Янкі Здольніка.

...Мікіта Зносак махае кавалкам чырвонай тканіны. Пад рогат скончыў першы акт. Пытаю ў суседа: «Які будзе фінал? Ад фіналу шмат што залежыць».

Забіваюць Мікіту Зносака. У яму, з якое ідзе дым, кідаюць галовы лялек — Папа, Пана, Спраўніка, Дамы. Над гэтым пеклам укленчвае Янка Здольнік (Янка Купала?). Чытае: «О так, я пралетар!..» Вядомы верш, напісаны Янкам Купалам у цяжкі для яго час. Гучаць словы: «Мне сняцца сны аб Беларусі». Раздаецца стрэл. У яму падае і Янка Здольнік: сны аб Беларусі — злачынства.

Чорныя анёлы размотваюць сувой, і ад магілы да калыскі, ад калыскі да магілы высцілаецца чырвоная паласа, крывавая сцежка — сімвал, знак. Але выходзяць белыя анёлы (слугі Белабога?), і ад калыскі да магілы, ад магілы да калыскі высцілаюцца дзве белыя паласы, дзве сцежкі. Сімвал, знак. Гучыць Купалава *«Малітва»*. Пад гэтую музыку, пад гэты спеў палосы, дарожкі ўздымаюцца ўгору. Я адразу ж успомніў пастаноўку 1982 года. Там быў сцяг, і тут сцяг — бел-чырвона-белы. Гэты сімвал, гэты, калі хочаце, жэст вынікае з пастаноўкі арганічна, лагічна.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

# БЕЗ ІЛЮЗІЙ

**Агляд чытацкай пошты**

ЯК ХУТКА мы прызвычайваемся да слоў (мо іх таксама *апошнім часам* закранула інфляцыя?). З тым жа імпэтам, з якім зусім нядаўна паўтаралі, нібы заклінанні, «перабудова», «эканамічная самастойнасць», «абноўленая федэрацыя», гаворым цяпер «рынак», «прыватызацыя», «дзяржаўны суверэнітэт». А такія папулярныя словы, як «дэмакратыя» і «галоснасць» усё часцей бяруцца ў двукоссі. Трэба разумець — паспелі ўжо расчаравацца?

Ці не давядзецца нам, забыўшыся і пра дэмакратыю і пра ўсё астатняе, прывыкаць неўзабаве да новых тэрмінаў — «надзвычайны стан», «каменданцкая гадзіна», «інтэрніраванне»... Перабальшванне? Хацелася б так думаць.

Гаворка тут, зразумела, не пра словы і паняцці. Галоўнае, што людзі разумеюць пад імі, зыходзячы кожны са свайго жыццёвага вопыту, інтэлекту і інтэрасаў. У гэтым сэнсе наша чытацкая пошта, як і заўсёды, дае цікавы матэрыял для роздуму.

«Быў у нашым жыцці час, калі мы жылі нядрэнна, хапала ўсяго. Было ўва што апрануцца, паесці хапала. Але чамусьці гэты час завецца цяпер застойным. Так і не магу зразумець, каму было дрэнна ад гэтага «застою»?». Так пачынае свой ліст Галіна Пятроўна **Белацаркавец** з Мінска (працоўны стаж — 39 гадоў, як яна піша). Толькі не трэба спяшацца залічваць аўтара ліста ў кансерватары. Гэта зрабіць прасцей за ўсё. А калі паспрабаваць зразумець? «Цяжка, сорамна і вельмі крыўдна бачыць, — піша Галіна Пятроўна, — старэнькіх бабулек, якія маюць мізэрныя грошыкі і не ведаюць, што за іх яны змогуць купіць. А ў той час нашы дэпутаты, на якіх мы ўскладалі надзеі, надзяляюць сябе льготамі». Ці не адчуваецца тут сапраўдная драма падманутай надзеі многіх і многіх на змены да лепшага? І што можна адказаць аўтару ліста, калі яна задаецца пытаннем, адкуль бяруцца ў спекулянтаў на Камароўцы ўсё, чаго няма на паліцах у крамах? Як і многія да яе, аўтар выгукае «так далей жыць нельга!» Якое ж выйсце? «Трэба ўсёй грамадой выбірацца з гэтай багны», — заклікае Галіна Пятроўна. Слушна сказана. Ды толькі, ці ёсць яшчэ надзея на кансалідацыю ў нашым грамадстве?

Прывяду яшчэ адзін ліст — удзельніка Вялікай Айчыннай вайны **К. Вогаля** з Гомеля. Аўтар ліста ўпэўнены, што яго допіс будзе рэдакцыі «недаспадобы». Што праўда то праўда. Тым больш, відаць, варта прасачыць, так бы мовіць, ход думкі аўтара. Штуршком для пісьма стала інтэрв'ю ў «ЛіМе» з народным дэпутатам БССР В. Ганчаром «Хто піша Канстытуцыю» (21.09. г.г.) «Ці не занадта рана дэпутат В. Ганчар і яго аднадумцы ўзяліся пісаць новую канстытуцыю?» — пытаецца К. Вогаль. «Я думаю, што патрэбна спачатку стабілізаваць эканоміку, накарміць людзей хлебам, а яны яшчэ патрабуюць і мяса (аўтарскі стыль захаваны.—В.Т.). Хто не сляпы, той бачыць, як зруйнавана гаспадарчая сістэма, як людзі бунтуюць ад недахопу тытуню і віна, па талонах атрымоўваюць цукар і лапшу. Я ўжо год не купляў новых шкарпэтак, хоць для мяне гэта не дзіва. У 1947 г., будучы студэнтам, цэлы год насіў адну пару... У той час на гэта былі важкія прычыны. А цяпер? Людзі ў космас лятаюць а мы цыруем панчохі...

Лідэр «застойнага» (увага: зноў двукоссі! — В.Т.) перыяду таксама пісаў канстытуцыю са сваімі памочнікамі. Тады Л. І. Брэжнеў павучаў нас, што канстытуцыя не толькі замацоўвае перамогу сацыялізму, але з'яўляецца яшчэ праграмай на будучае. ...Вось я і думаю, ці патрэбны нам... новыя прагнозы, ці не лепш замацаваць у новай канстытуцыі тое, што пабудуем? Звернемся да нашага пяцігадовага вопыту. Што ў нас працуе з таго, што запісана ў новых законах? Амаль нічога! Цяпер кажуць, што... патрэбен рынак. А для гэтага неабходна вытрымаць «шокавую» тэрапію Шаталіна. Але ж просты чалавек... не разумее карысці ад гэтай тэрапіі. Ці выжывем мы пасля чарнобыльскай «тэрапіі», а тут яшчэ шаталінская...

І далей. «...Дэпутат Ганчар патрабуе... распрацаваць і прыняць невядома якую новую канстытуцыю... Я, напрыклад, у новай канстытуцыі патрабую замацаваць гарантыі для сацыялізму, а З. Пазняк — для прыватызацыі. Хутка тут да кансенсуса не дойдзеш... Трэба размежавацца».

Што тут скажаш? І сапраўды, да кансенсуса ў нашым грамадстве, якое раздзіраюць эканамічныя, палітычныя, нацыянальныя супярэчнасці, вельмі далёка. Хіба змогуць паразумецца паміж сабой той жа Вогаль (а такіх, як ён, шмат) і прыхільнікі БНФ?

З чым, аднак, пагаджаюцца сёння ўсе — левыя, правыя, цэнтрысты; кіраўнікі КПБ і лідэры народнага фронту,—гэта з тым, што простаму чалавеку жыць з кожным днём становіцца ўсё цяжэй. Але высновы з гэтага робяцца розныя, бо па-рознаму бачацца прычыны крызісу.

«З паліц крам усё хутка знікае... — піша **М. Р. Васільчанка** (Мінск).—Цукар, муку, крупы нават па талонах купіць нельга. А як жа іх забяспечыць, калі ў падсобках, падвалах, на дачах гандляры назапасілі па сотні тысяч дэфіцытных прадуктаў!... А ў гэты час партапарат заклікае да «поўнай перамогі сацыялізму», атрымліваючы кватэры па 100-150 метраў на сям'ю». «Трэба спяшацца! Хутка рынак! Трэба паспець зрабіць запасы» —такі, на думку аўтара ліста, зараз лозунг партыйна-гандлёвай мафіі. Для таго, каб навесці парадак, мяркуе М. Васільчанка, неабходна дэпартызацыя Саветаў.

**П. І. Бурдыка** з Полацка цытуе ў сваім пісьме выказванне Г. Бакланава ў «Известиях» (№ 265 за г.г.): «Недавно на совещании я услышал сказанное с гордостью и надеждой: «Сидят еще кое-где застойные ребята, на них можно положиться». На думку Бурдыкі, такіх «застойных хлопцаў» шмат на Беларусі — прытым, на самым высокім дзяржаўным узроўні.

«Нягледзячы на пэўны зрух улева, сённяшні склад ВС БССР не адпавядае ні складанасці праблем, якія пагрозліва паўсталі перад рэспублікай, ні палітычнаму раскладу ў грамадстве», — лічыць інжынер з Мінска **С. Ліцвін**. Толькі новыя выбары па партыйных спісах дапамогуць, сцвярджае ён, стварыць сапраўды дэмакратычны і дзеяздольны парламент.

Наогул, па пісьмах нашых чытачоў можна меркаваць, якая ідзе напружаная барацьба за ўладу ў Саветах усіх узроўняў. Мінчанін **С. Аўгусціновіч** апісвае выступленне інструктара Першамайскага райкома КПБ на прадпрыемстве, дзе ён працуе. Інструктар з першых слоў пачаў крытыкаваць Мінсавет і райсавет, дэпутаты якіх, маўляў, займаюцца рознымі глупствамі, накшталт прызнання бел-чырвона-белага сцяга. «Падтэкст яго прамовы, — піша С. Аўгусціновіч, — быў такі: глядзіце, гэтыя Саветы нічога не могуць зрабіць, ім давяраць нельга. Толькі мы (г. зн. партыйныя кіраўнікі) можам навесці парадак...» Аўтар робіць выснову, што зараз ідзе канцэнтрацыя рэакцыйных сіл у рэспубліцы пад сцягам кампартыі. Можа, наш чытач згушчае фарбы? Але ў якія часы напісаныя такія перлы — «Националистическая белогвардейщина», «националистические бредни», «чертополох белорусского варианта национализма»? Так характарызуе ідэі БНФ гісторык А. Залескі на старонках партыйнага выдання — «Советской Белоруссии» — у сваім артыкуле «К разговору об этнографической Белоруссии». Пра гэта з абурэннем напісаў нам інжынер-тэхнолаг з Мінска **Э. Бокі**.

Зразумела, такіх выразаў не сустрэнеш на старонках праграмных дакументаў Кампартыі Беларусі, якая рыхтуецца зараз да свайго XXXI з'езда. Але ўсё роўна, чытаеш іх і не можаш пазбавіцца ўражання, што напісаны яны ў адрыве ад часу, гісторыі. Ад уласнага народа перш-наперш.

Нездарма адкрыты ліст групы пісьменнікаў да ЦК КПБ «Каму, якому народу служым?» выклікаў гарачыя водгукі ў нашых чытачоў. «Поўнасцю згодзен з меркаваннямі вядомых на Беларусі людзей, — піша Аляксандр Васільевіч **Ціканаў** з Глуска. — Катастрафічна хутка гіне душа беларускага народа». Аляксандр Васільевіч заклікае пісьменнікаў не чакаць адказу ад ЦК КПБ, а дзейнічаць, увесь свой аўтарытэт скарыстаць на захаванне беларускамоўных выданняў.

Мікола Клімавіч **Бусел** з вёскі Дуброва Светлагорскага раёна Віцебскай вобласці лічыць, што пытанне «Каму, якому народу служым?» адносна ЦК КПБ застанецца рытарычным, бо кампартыя даўно не здольная генерыраваць ніякіх новых ідэй, не здольная да абнаўлення.

Настаўнік **А. Букачоў** (беспартыйны) з вёскі Вароны Віцебскага раёна лічыць, што ў камуністаў Беларусі ёсць яшчэ апошні шанц. Ён прапануе, каб на сваім з'ездзе КПБ выразна выказала свае адносіны да сталінізму, ліквідавала ўсе прывілеі для партработнікаў, скасавала райкомы, гаркомы і абкомы перадаўшы ўсю ўладу Саветам. Заканчвае свой ліст А. Букачоў так: «У сувязі са зваротам групы беларускіх пісьменнікаў да ЦК КПБ прапаную Я. Я. Сакалову зрабіць даклад на з'ездзе на беларускай мове».

Глыбокую занепакоенасць будучыняй нацыянальнай культуры ў сувязі з маючым адбыцца пераходам на рынкавыя адносіны выказвае ў сваім пісьме **У. Ірбіс** з Крупак «Дзе ўзяць грошы тэатрам, музеям, мастацкім галерэям (асабліва правінцыйным)? Павышаць цэны за ўваход? Але многім тады мастацтва будзе не па сродках,— разважае аўтар ліста. — Перадаваць культустановы ў прыватныя рукі? Але дзе гарантыя, што яны не дастануцца людзям несумленным, карыслівым?

Мне асабіста выйсце бачыцца толькі ў дзяржаўных датацыях. Прытым, перадаваць грошы трэба не Міністэрству культуры, а непасрэдна культурным установам праз мясцовыя Саветы. Падтрымка неабходна хоць бы ў першыя гады пасля пераходу да рынку».

Самым галоўным пры пераходзе да рынку з'яўляецца пытанне аб уласнасці, у першую чаргу ўласнасці на зямлю. Гэта пацвярджае і ход нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі. Рабочы-слесар з Мінска Сяргей Міхайлавіч **Сойка** «неаднаразова,—як піша ён,—меў гонар у добраахвотным парадку дапамагаць сельскай гаспадарцы». Яму не спадабалася інтэрв'ю газеце «Звязда» народнага дэпутата БССР Б. Савіцкага, у якім ён даводзіць, што права выдзяляць зямлю сялянам павінна належаць кіраўнікам гаспадарак і толькі ім. Сяргей Міхайлавіч прапануе зямлю аддаць сельскім Саветам, якія б займаліся размеркаваннем зямлі. «Любыя змены ў сельскай гаспадарцы,—піша **С. Сойка**, — прывядуць да скасавання вялікай колькасці пасад кіраўнікоў гаспадарак і сакратароў парткомаў». Вось чаму, на яго думку, большасць гэтых кіраўнікоў выступае супраць рэформы ці спрабуе любымі спосабамі зацягнуць іх правядзенне.

Пытанні ўласнасці, эканамічнай рэформы непасрэдным чынам звязаны з пытаннямі суверэнітэту рэспублікі, на шляху да якога стаіць манаполія саюзных ведамстваў. «Беларусь выходзіць на самастойныя рэйкі»,—радуецца Міхась Пятровіч **Мартынчук** з вёскі Новыя Лышчыцы Брэсцкага раёна. Але і непакоіцца: ці не будуць, як і раней, неахайна «гаспадарыць» на нашай зямлі меліяратары з іх ненажэрным апетытам. (З-за асушэння ў некаторых мясцінах на Брэстчыне грунтовыя воды апусціліся ўжо на 15 метраў, з трывогай паведамляе чытач.)

Ці напоўніцца дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі рэальным зместам? Быць альбо не быць новаму Саюзнаму Дагавору, а калі быць, дык якому? Ад адказаў на гэтыя пытанні ў многім залежыць і будучыня рэспублікі. «Паспешлівае ўтварэнне новай федэрацыі, якая ствараецца партыйна-дзяржаўным апаратам,— піша **У. Масакоўскі** з Салігорска,— а не народамі Савецкіх рэспублік, не прынясе свабоды і незалежнасці».

«З вялікім захапленнем прачытаў у «ЛіМе» за 14 верасня інтэрв'ю з народным дэпутатам БССР Уладзімірам Мікалаевічам Заблоцкім «Жыць у сваім доме»,—як ёміста і своечасова сказана! — піша Іван **Жытко** з г. Камянец Брэсцкай вобласці.— Нам, беларусам, як нікому, зараз патрэбен свой дом, у якім бы мы маглі без перашкод адкрываць беларускія школы... Гэтую гутарку я чытаў многім і ад многіх чую у адказ: нам патрэбен свой дом. Тады мы будзем людзьмі звацца і жыць не горш за іншых. Дай Бог збыцца марам нашага дэпутата».

*На такой мажорнай ноце* хацелася б і скончыць гэты агляд. Ды толькі... Апошнюю фразу можна па-рознаму ўспрыняць. Мары застануцца марамі, калі мы будзем спадзявацца толькі на Бога, ці на дэпутатаў, ці, наогул, на цуд... Цудаў жа, як вядома, не бывае. Апошнія семдзесят тры гады нашай гісторыі — яскравае гэтаму пацвярджэнне.

Ну, а надзея? Што ж, надзея заўсёды застаецца...

**Віталь ТАРАС.**



Мал. А. ГУРСКАГА.

## Кнігапіс

ВАСІЛЬ БЫКАЎ
ДАЖЫЦЬ ДА СВІТАННЯ



В. БЫКАЎ. Дажыць да світання. Аповесці. Мінск, «Юнацтва». 1990.

**Змест чарговай кнігі Васіля Быкава, якая выйшла ў міжвыдавецкай серыі «Школьная бібліятэка», склалі вядомыя аповесці «Альпійская балада», «Сотнікаў», «Абеліск», «Дажыць да світання». Пра творчасць пісьменніка разважае ў артыкуле «Эпапея працягваецца» Дзмітрый Бугаёў.**

І. ПТАШНІКАЎ. Збор твораў у чатырох тамах. Том 1. Раман, апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1990.

**«Чалавек абжывае зямлю» — так дакладна назваў артыкул пра творчасць І. Пташнікава, якім адкрываецца том, Серафім Андраюк. Сапраўды, пісьменнік ужо не адзін дзесятак гадоў глыбока спасцігае ўнутраны свет чалавека — селяніна. Гэтая повязь, лучнасць чалавека з зямлёй пастаянна нагадвае аб сабе, нават у трывожныя часіны вайны. Чытач пазнаёміцца ў томе з раманам «Чакай у далёкіх Грынях», апавяданнямі розных гадоў. Сярод іх і тыя, што напісаны нядаўна — «Эфка», «Львы», «Арчыбал»—і ўпершыню ўбачылі свет на старонках «ЛіМа».**




В. МАРТЫНЕНКА, А. МЯЛЬГУЙ. Праз рок-прызму. Нью-Йорк. Беларускі інстытут навук і мастацтва (БІНіМ), 1989.

**«Мае не толькі пазнавальнае, але і выхаваўчае значэнне» — так ахарактарызавала гэтае выданне аўтар прадмовы Паўліна Сурвіла. Кніга — плён васьмігадовай дзейнасці аглядальнікаў, аўтараў музычнай рубрыкі «Нотны аркуш» газеты «Чырвоная змена». Пад адной вокладкай сабраны тэарэтычныя артыкулы, эсэ, творчыя партрэты «зорак» заходняй рок-музыкі вядомых выканаўцаў з Усходняй Еўропы і Савецкага Саюза. Самы вялікі раздзел — сучаснае музычнае мастацтва Беларусі. Чытач даведаецца пра гісторыю адкрыцця А. Мальдзісам «Полацкага сшытка», сустрэнецца з кампазітарам У. Кандрусевічам, пазнаёміцца з творчасцю рок-гуртоў «Бонда», «Мроя», «Уліс», «Мясцовы час» і іншых. Кніга В. Мартыненкі і А. Мяльгуя распаўсюджваецца не толькі ў ЗША, але і ў Англіі і Канадзе.**

# ЯК ЖЫЛІ І ЖЫВУЦЬ БЕЛАРУСЫ

**По старонках этнаграфічнай энцыклапедыі**

ХТО З ВАС, дарагія чытачы, зможа адказаць на наступныя пытанні: што такое **аблавуха, адонак, алькеж, апука, балабуха, «барадайка», бёрда, буч, калінніца, пярэзвы?** Хутчэй за ўсё — вам цяжка сказаць, што азначаюць гэтыя словы. Адказ на гэтыя і тысячы іншых вялікіх і дробных пытанняў змяшчае энцыклапедыя «Этнаграфія Беларусі», якая летась выйшла ў свет у выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.

Перад намі першае выданне падобнага роду не толькі ў нашай рэспубліцы, але і ў краіне. Над стварэннем гэтага фундаментальнага выдання працаваў калектыў беларускіх этнографаў з удзелам спецыялістаў сумежных навук. Мы маем на ўвазе групу высокакваліфікаваных фалькларыстаў, мовазнаўцаў, мастацтвазнаўцаў, філолагаў, дэмографаў, у тым ліку аўтараў газеты «Літаратура і мастацтва» А. Грыцкевіча, А. Ліса, Г. Цыхуна, Ю. Чурко, Г. Каханоўскага, А. Каўку, Я. Сахуту, І. Юхо і іншых.

У энцыклапедыі змешчана больш за тры тысячы артыкулаў, тэматыка якіх надзвычай разнастайная. Тут і агульныя паняцці этнаграфіі, этнічныя групы і віды паселішчаў, збудаванняў, промыслы, рамёствы, нацыянальнае адзенне, стравы, біяграфіі беларускіх, а таксама рускіх і польскіх этнографаў, іншых вучоных, якія ў сваіх працах закраналі тыя ці іншыя пытанні, звязаныя з Беларуссю.

Энцыклапедыя дае магчымасць чытачу пазнаёміцца з асноўнымі аспектамі жыццядзейнасці беларусаў ад старажытных часоў да нашых дзён, іх матэрыяльнай і духоўнай культурамі.

**Вызначальны артыкул В. К. Бандарчыка «Этнаграфія Беларусі» знаёміць чытача з мэтамі і задачамі этнаграфічнай навукі, якая зарадзілася ў першай палавіне XIX стагоддзя і вывучае этнасы-народы, іх культуру і побыт. На высокім навуковым узроўні напісаны артыкулы, у якіх разглядаюцца пытанні паходжання (этнагенеза) і развіцця (этнічнай гісторыі) беларускага этнасу. Найбольш грунтоўна пра гэта гаворыцца ў вялікім артыкуле «Беларусы» ( аўтары І. Чаквін, Г. Каспяровіч). Сёння, калі хутка расце нацыянальная самасвядомасць беларусаў, выключную актуальнасць набываюць пытанні фарміравання і развіцця беларускай народнасці, фарміравання беларускай нацыі.**

**Нельга не згадзіцца з думкай даследчыкаў, што з'ява нацыянальнай кансалідацыі была не адзіным этнічным працэсам, які вызначаў развіццё беларускага этнасу ў пачатку XIX ст. Пазбаўлены ўласнай дзяржаўнасці, ён быў безабаронны перад іншаэтнічным асіміляцыйным уздзеяннем. 18 ліпеня 1740 г. Мікалай І забараніў ужываць назвы Літва і Беларусь, у той час быў адменены Статут Вялікага княства Літоўскага. У афіцыйных выданнях і дзяржаўных дакументах пачаў ужывацца казённы тэрмін «Паўночна-Заходні край Расіі». «Заходнерусізм» стаў не т о л ькі ідэалогіяй, але і самасвядомасцю часткі праваслаўнага духавенства, чыноўніцтва, дваранства, пазней і буржуазіі, у тым ліку сельскай.**

На падставе вывучэння шматлікіх крыніц аўтары артыкула прыйшлі да вываду, што, нягледзячы на ўзмацненне русіфікацыі, культурнае жыццё Беларусі 19 ст. па-ранейшаму было звязана ў асноўным з польскай мовай. У 1840—50-ыя гады сярод шматлікага кола мясцовай інтэлігенцыі ўзнікла цікавасць да вывучэння фальклору і побыту карэннага насельніцтва і гістарычнага мінулага Беларусі. Паступова з польскамоўнага літаратурнага руху вылучалася так званая беларуская школа. Асобныя творы Я. Чачота, А. Баршчэўскага, А. Рыпінскага, У. Сыракомлі былі напісаны на беларускай мове, а ў В. Дуніна-Марцінкевіча яна стала асноўнай. З Беларуссю было звязана выяўленчае мастацтва В. Ваньковіча. В. Дмахоўскага, Я. Дамеля і інш. А. Абрамовіч зрабіў першыя спробы стварэння нацыянальных музычных кампазіцый. Дзеячы літаратуры і мастацтва групаваліся вакол гурткоў А. Кіркора ў Вільні, В. Дуніна-Марцінкевіча ў Мінску, А. Вярыгі-Дарэўскага ў Віцебску. Іх самасвядомасць і творчасць яшчэ не мелі ясна акрэсленага нацыянальнага зместу, але аб'ектыўна яны стваралі аснову беларускай мастацкай культуры, якая служыла доказам патэнцыяльных магчымасцей нацыі.

Важна, што асобныя артыкулы энцыклапедыі «Этнаграфія Беларусі» прысвечаны іншым народам і этнічным групам, што жывуць на тэрыторыі Беларусі або мяжуюць з ёю. Мы маем на ўвазе рускіх, украінцаў, палякаў, яўрэяў, літоўцаў, латышоў, татараў, цыганоў.

Самая вялікая група артыкулаў прысвечана характарыстыцы побыту і культуры беларусаў: іх вытворчай дзейнасці ў пэўныя гістарычныя перыяды, земляробству, жывёлагадоўлі, падсобным заняткам і г. д. Той, хто азнаёміцца з артыкуламі энцыклапедыі, будзе мець даволі поўнае ўяўленне аб розных промыслах і рамёствах як падсобных занятках гараджан і сялян: рыбалоўстве, паляўніцтве, бортніцтве, лясных і лесахімічных промыслах; рамёствах — ткацтве, пляценні, дрэваапрацоўцы, шавецтве, ганчарстве, кавальстве, скураной вытворчасці, кравецтве, шапавальстве і г. д.

На вялікі жаль, мы павінны сёння прызнаць, што ва ўмовах разгортвання навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, бурнага росту гарадоў і гарадскога насельніцтва рэспублікі з кожным годам становіцца менш помнікаў матэрыяльнай культуры, знікае іх лексіка, што прыводзіць да абяднення этнічнай спецыфікі. Тым большую каштоўнасць маюць цяпер матэрыялы, якія даюць яскравае ўяўленне пра высокі ўзровень народнага ўмельства і майстэрства.

**Аказваецца, АБЛАВУХА — гэта традыцыйная мужчынская шапка-вушанка з аўчыны або заечага, лісінага, вавёрчынага ці трусінага футра, пацягнутае зверху цёмным сукном. Да асновы яе прышывалі 4 крылы (вушы), пярэдняе і задняе падымалі і звязвалі зверху, бакавыя апускалі ці падвязвалі пад падбародкам.**

**АДЛЕУНІК — гліняны гаршчочак невялікага аб'ёму. Звычайна ў яго адлівалі ежу, што бралі з сабой у час сенакосу ці жніва.**

**АДОНАК — 1) памост для складвання неабмалочаных снапоў. 2) Палосы з сушняку, жэрдак, на які кладуць стог сена ці скірду збожжа.**

**АЗЯРОД — збудаваны са слупоў і жэрдак для дасушвання на сонцы і ветры збажыны, сена, бульбоўніку і інш.**

**АНДАРАК — паясное адзенне беларускіх жанчын — спадніца з шарсцяной саматканкі ў клетку або ў падоўжаныя ці папярочныя палосы.**

**БАБІНА КАША — абрадавая страва на радзінах.**

**БЛАХВА — назва баваўняных каляровых нітак для вышывання і ткання.**

Я прывёў усяго некалькі прыкладаў з энцыклапедыі. А такіх тэрмінаў тут сотні.

Чытачам, якія цікавяцца духоўнай культурай беларусаў, карысна ведаць, што значная колькасць артыкулаў гэтага выдання прысвечана народнаму светапогляду, народным ведам у галіне медыцыны, ветэрынарыі, матэматыкі, геаметрыі, агранаміі і інш., абрадам і традыцыям, вераванням і вуснапаэтычнай творчасці, народнаму мастацтву. З цікавасцю чытаюцца артыкулы аб сям'і, шлюбе, сямейных адносінах, сямейным праве, ступенях сваяцтва, сямейных і вясельных абрадах.

**На мой погляд, вялікую цікавасць чытачоў выкліча артыкул Л. Малаш «Сватанне». Тут тлумачыцца, што СВАТАННЕ, СВАТЫ — адзін з этапаў падрыхтоўчага перыяду вяселля, у час якога бацькі і нявеста даюць згоду на шлюб.**

**Згодна з народнай традыцыяй, сваты не павінны былі адразу заходзіць у хату, а стукалі ў акно, прасілі пусціць іх начаваць, выдаючы сябе за падарожных, паляўнічых, купцоў і г.д., якія заблудзіліся, трапілі на след куніцы, або за асоб, якія даведаліся, што прадаюць тут авечку, цялушку і г. д.**

**У час сватання гаварыліся розныя спецыяльныя прымаўкі, прыказкі, намёкі, прыгаворы, іншасказанні, умоўныя форму-**

# Соку адталага рух

Два гады назад адзін крытык наракаў, што паэты, маўляў. мала пішуць пра перабудову. Праўда, ён згадваў у якасці станоўчага прыкладу вершы П. Панчанкі, С. Грахоўскага і яшчэ таго-сяго. Мо дарэмна прыспешваў крытык паэтаў, бо Перабудова-Адраджэнне — тэма, якая даўно спелілася ў сэрцах мастакоў. Адкрыйце новыя кнігі Р. Барадуліна, В. Зуёнка, А. Лойкі, Д. Бічэль-Загнетавай, Я. Міклашэўскага, С. Панізніка — і вы прачытаеце нямала добрых твораў пра нашы перабудовачныя дні, пра сённяшняе гістарычна ўсвядомленае нацыянальнае Адраджэнне, пра ўваскрэсенне чалавечай годнасці ва ўмовах духоўнага разняволення.

Вершы абсалютнай большасці цяперашніх паэтаў вызначаюцца грамадзянска-публіцыстычным пафасам, відавочнай палітызацыяй зместу. Сказанае тычыцца і такіх вершаў з новай кнігі М. Кусянкова «Дуброва», як «Тэлефон», «Аўтатрэнінг», «Скачкі ў ваду». Паэт з гневам піша пра ваяўнічых і ціха бессаромных бюракратаў, яго хвалюе, чаму так мала сапраўдных рыцараў перабудовы, якія бескампрамісна змагаліся б з удушлівай бюракратычнай сістэмай. У адным з вершаў паэт, узважваючы цяжар перажытага і тое, што яшчэ чакае нас наперадзе, кажа пра маральную неабходнасць усялюдскага асуджэння жыцця і дзейнасці правадыроў — тых, хто пакінуў народу ў спадчыну чашу пакут і слёз. Крыж, узвалены на плечы народа,—расплата за бязмоўную пакору, слепату, сацыяльнае і духоўнае рабства. Як дакор і як напамін чуюцца паэтавы словы:

**Яшчэ нам з горкай чашы**
**піць і піць,**
**Бо ён пакінуў нам такую чашу.**
**(«На ўсіх пасадах...»)**

Пасля знаёмства з раздзелам «Горкая чаша» асабліва добра відаць шырыня аўтарскага светабачання і светаразумення. М. Кусянкоў успрымае і асэнсоўвае напружанасць, балявы напал сённяшняга быцця грамадства. Наш рух наперад для паэта ідзе пад знакам Чарнобыля і Афганістана, ад апякаючай праўды Курапат, ад спадчынных крыжоў продкаў... Аўтар кнігі сцвярджае грамадзянскую бескарыснасць, духоўную самаахвярнасць у імя праўды, жыцця і будучыні нацыі:

**Нам толькі б рашыцца, сябры,**
**За праўду пайсці на Галгофу.**
**(«Галгофа»).**

Спазнаць разняволенасць духу, далучыцца да хады ў пошуку сябе, ісціны жыцця і свету — нялёгка. Спавядальнасць верша «Выціскаю з сябе раба», можа, нават лепш, чымся прамоўніцка-публіцыстычны тон іншых вершаў, даносіць да нас усю складанасць, цяжар духоўнага абнаўлення грамадства, якое дзесяцігоддзямі было заціснута абручамі страху, пакорлівасці, фальшу. Паглыбленне ва ўласнае «я», унутраны роздум — сведчанне натуральнага, жывога сэрцабіцця паэта ў сённяшнім сацыяльна-палітычным асяроддзі:

**Выціскаю раба векавога —**
**Так ён падае сёння ў цане.**
**Але вельмі ж ва мне яго**
**многа! —**
**Божа, скончыцца раб мой**
**ці не?..**

«Горкая чаша»— раздзел, у пульсе якога надзвычай магутна «соку адталага чуецца рух» — рух праўды і сумлення перад тварам сённяшняга свету. Вершы «Вецер», «Ад Пампеі ўратавалі нас...», «Балада пра мухамор» пранізвае трагічны матыў чарнобыльскай смерці, якая ўшчыльную падступіла да жыцця чалавека, прыроды, нацыянальнай будучыні. Паэт са скрухай і гаркатой гаворыць пра атручаную родную зямлю, малюе яе трагедыю згушчанымі фарбамі. Па-ранейшаму захапляцца прыволлем Гомельшчыны, абжытасцю роднай зямлі ўжо не прыходзіцца. Паэт вымушае нас з пранізлівымі пачуццямі ступіць на ветраны шлях бяды, на мяжу той роспачы і безвыходнасці, якая пралегла пасля Чарнобыля ў сэрцы чалавека. Выбар паміж жыццём і смерцю, што выпаў народу Беларусі, М. Кусянкоў паказвае як нейкую няўдзячную асуджанасць лёсу, як спрадвечную наканаванасць пакутніцкай долі, Гуманістычны подзвіг пажарных Чарнобыля выклікае ў паэта ўдзячнасць, пашану, але адначасова абуджае абвостраны грамадзянскі зрок, сацыяльна-непрымірымы голас супраць дзяржаўных злачынцаў, нядбайства і несправядлівасці:

---

Мікола Кусянкоў. Дуброва. Вершы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1990.

рам і будынкам тэатра і стандартны бюст маршала Сакалоўскага сярод будынкаў XVII—XIX стагоддзяў у Гродне відавочна стаяць не на сваім месцы, прафануючы ідэю, якую нібыта павінны сцвярджаць. У цэнтры горада, у парку, ёсць сціплы, але даволі густоўны помнік над магіламі загінуўшых пры вызваленні горада. Да яго прывыклі, ён стаў арганічнай часткай вобраза горада. Да танка і маршала прывыкнуць немагчыма. Кожны нармальны чалавек разумее, што аж тры ваенныя помнікі (дадайце сюды чацвёрты — помнік Чапаеву) на такім малым «пятачку» гістарычнай забудовы, як цэнтр Гродна (адзіны на ўсю Беларусь, і таму яшчэ больш каштоўны) — замнога. У той час, як у цэнтры Гродна няма месца Кастусю Каліноўскаму, Францыску Скарыне, Янку Купалу.

Сама сталіца Рэспублікі падае прыклад, як можна вырашаць такія пытанні. У 1972 годзе ў сувязі са стварэннем Купалаўскага мемарыяла ў парку, што носіць імя паэта, адсюль быў перанесены на другое месца бюст Героя Савецкага Саюза лётчыка Грыцаўца. І ніхто не палічыў гэта за абразу, за знявагу памяці героя. Проста было перагледжана колішняе неразумнае рашэнне гарадскіх улад, якія паставілі ваенны помнік у Купалаўскім парку на вуліцы Купалы.

Магчыма, сёй-той з чытачоў, нягледзячы на прыведзеныя мною аргументы, будзе шукаць паралелі паміж рашэннем гарадскіх улад Вільні аб дэмантажы помніка генералу арміі Чарняхоўскаму ў сталіцы Літоўскай Рэспублікі і маімі прапановамі адносна гродзенскага помніка-бюста маршалу Сакалоўскаму і танка-помніка вызваліцелям Гродна. Можа, хто-небудзь запіша мяне ў адну кампанію з тымі, хто апаганьвае магілы савецкіх салдат у Польшчы і Балтыі, а цяпер ужо і ў нас, на Гродзеншчыне. Таму ўдакладню сваю пазіцыю.

Помнік Чарняхоўскаму ў Вільні ўпрыгожвае горад — чаго не скажаш пра бюст Сакалоўскага і помнік-танк у Гродне. Ён знаходзіцца за межамі ўласна гістарычнага ядра Вільні — прыгаданыя вышэй помнікі стаяць якраз у самым цэнтры. Помнік Чарняхоўскаму зроблены выдатным савецкім скульптарам Томскім, гарманіруе з асяроддзем, якое фарміравалася ў гэтай частцы Вільні з улікам дамінуючай ролі помніка. Ён ужо неад'емная частка горада. Усяго гэтага нельга сказаць пра гродзенскія аб'екты, выкананыя на ўзроўні дрэннага рамесніцтва і гвалтам уціснутыя ў чужое архітэктурнае асяроддзе.

Акрамя таго, трэба ўлічваць абставіны нараджэння помніка: віленскі помнік, у адрозненне ад гродзенскага, — надмагільны. Генерал арміі Чарняхоўскі быў пахаваны ў Вільні па просьбе ўрада Літоўскай ССР як нацыянальны герой Літвы, як вызваліцель Рэспублікі і «Малой Літвы» (так літоўцы называюць Усходнюю Прусію) ад нямецкіх захопнікаў. Гэтая дэманстрацыя ўдзячнасці Савецкім Узброеным Сілам павінна была, на думку яе аўтараў, зрабіць добрае ўражанне на Сталіна і паспрыяць таму, каб ён падарыў Літве Кёнігсберг, як гэта ўжо было з Вільняй, Мемелем. З гэтай жа мэтай літоўцы дамагаюцца, каб менавіта іх скульптарам даручылі працу над помнікам героям штурма горада-крэпасці Кёнігсберг. Помнік у Кёнігсбергу разам са сваімі калегамі рабіў вядомы, вельмі паважаны ў Літве майстар Мікенас. Вядома ж, у адпаведнасці са сталінскімі ўяўленнямі аб эстэтыцы. Аднак стараліся дарма. Не даў «бацька народаў» Літве Кёнігсберга: вырашыў, што хопіць з іх даваенных падарункаў. Значыць, цяпер трэба знішчыць помнік генералу Чарняхоўскаму і выкінуць нябожчыка з зямлі? А для абгрунтавання нецывілізаваных паводзін натоўпу запісаць баявога генерала ў сталінска-берыеўскі хаўрус? Маўляў, усе савецкія аднолькавыя: і той, хто закрываў сабою амбразуры нямецкіх дотаў, і той, хто канваіраваў зэкаў на Калыму?

Гэта зноў жа той аспект літоўскага вопыту, да якога беларусам трэба ставіцца вельмі крытычна. Адна справа — зняцце помнікаў у імя гістарычнай справядлівасці, ці перанос помнікаў у іншае, больш адпаведнае ім асяроддзе, зыходзячы з эстэтычных крытэрыяў; другая — помста мёртвым, за якімі, дарэчы, няма ніякай віны. І ўвогуле палітычныя скокі на магілах нічым апраўдаць нельга. З усіх магчымых відаў палітычнай барацьбы гэты — самы горшы.

Цяпер наконт «дружбы народаў», якая, па словах пісьменніка Міхаіла Задорнага, апошнім часам моцна абвастрылася, і аб адной з яе праяў — «баявой садружнасці». У свой час савецкімі гісторыкамі дзеля добрых стасункаў СССР і ПНР, КПСС і ПОРП перабольшвалася роля Войска Польскага, сфарміраванага Савецкім Саюзам, у перамозе над гітлераўскай Германіяй. Якое гэта мае дачыненне да нас, да Беларусі? Менавіта на Беларусі, на Магілёўшчыне, у мястэчку Леніна стаіць своеасаблівы помнік фальсіфікацыі гісторыі — «Музей савецка-польскай баявой садружнасці».

Калі ўжо гаварыць пра «савецка-польскую», дык трэба і пра «савецка-латышскую», «савецка-літоўскую», «савецка-азербайджанскую» і іншыя баявыя садружнасці. Сярод палеглых на Вісле ў 1944 годзе цэлыя палкі складаліся з адных беларусаў. Войска Польскае было не адзіным нацыянальным фарміраваннем у складзе Чырвонай Арміі. Тое, што Войска Польскае фармальна лічылася самастойным, нічога не мяняе на справе. Савецкі Саюз яго сфарміраваў, узброіў, даў сваіх афіцэраў, падпарадкаваў Вярхоўнаму камандаванню Чырвонай Арміі.

Уласна кажучы, мемарыял «савецка-польскай баявой садружнасці» прысвечаны так званай бітве пад Леніна. Гледзечы на манументальны будынак музея, можна падумаць, што гэта падзея з таго ж шэрагу, такая ж эпахальная, што і Сталінградская, Курская бітва ці бітва пад Масквою. А то і больш важная, бо ні Валгаград, ні Курск, ні Масква не маюць нічога падобнага на той музейны цуд у Леніна. Але калі рассеяць ідэалагічны флёр вакол гэтай падзеі, дык высветліцца, што гэта быў нічым непрыкметны эпізод Беларускай аперацыі Чырвонай Арміі. Падобных у той жа дзень на савецка-германскім фронце былі тысячы. Яго асаблівасць толькі ў тым, што ў гэты дзень на гэтым месцы прыняла хрост вайсковая часць, сфарміраваная пераважна з палякаў (і то яшчэ трэба высветліць, хто былі па нацыянальнасці гэтыя жыхары заходніх абласцей Беларусі і Украіны) — дывізія Касцюшкі. Вось таму тут і стаіць мемарыял не менш маштабны (не скажу каб велічны), чым мемарыял у берлінскім Трэптаў-парку. Але ці мала розных батальёнаў, палкоў, дывізій прынялі на Беларусі першы бой? Што ж, па кожным такім выпадку мемарыял ладзіць? Дык за якія ж заслугі дывізіі Касцюшкі асобая пашана? Толькі за тое, што яна ваявала пад польскім сцягам? Мы ўжо звыкліся, што ў нашай краіне лепей быць чалавекам з замежным пашпартам, чым грамадзянінам СССР. Лягчэй жыць. Але ж, аказваецца, чужаземец у СССР (БССР) мае прывілеі і на пасмяротную памяць.

Зыходзячы з прынцыпаў аб'ектыўнасці і гістарычнай справядлівасці, можна паставіць пытанне аб пераглядзе статуса музея ў Леніна. Ён мог бы стаць музеем Вялікай Айчыннай (ці Другой сусветнай) вайны на Магілёўшчыне. А ў яго экспазіцыі які-небудзь стэнд мог бы апавядаць і пра дывізію Касцюшкі, пра Войска Польскае.

Здаецца, столькі на Беларусі помнікаў, мемарыяльных шыльдаў, памятных знакаў, прысвечаных падзеям Вялікай Айчыннай вайны, а сапраўдная гісторыя Беларусі ў вайне не напісана. Не занатавана ў «манументальным летапісе», дагэтуль не ўшанавана памяць беларусаў, што загінулі на іншых франтах Другой сусветнай вайны, а не толькі на савецка-германскім. Менавіта з жыхароў заходніх абласцей Беларусі былі сфарміраваны «польскія» часці, якія ў час высадкі брытанскіх войск у Італіі (1944) штурмавалі Монтэ-Касіна. Забыты беларусы — афіцэры Войска Польскага, што сталі ахвярамі сталінскіх катаў у Катынскім лесе.

Ды і ўвогуле, хто паклапоціцца аб памяці нашых суайчыннікаў-беларусаў, што ў розныя часы, далёкія і блізкія, у сусветных войнах і «рэгіянальных канфліктах», загінулі за межамі Беларусі на тэрыторыі іншых дзяржаў? Хто, калі не мы?

Але ж помнікі ім можа паставіць толькі суверэнная Беларусь. Пераацэнка манументальнай спадчыны адыходзячай эпохі — крок да суверэнітэту. І зрабіць гэту справу трэба спакойна, разважліва, як належыць цывілізаваным людзям, без «своеасаблівага варварства», да якога так схільны «людзі асобага складу».

## З пошты гэтага тыдня

**«ЗА АДРАДЖЭННЕ** роднай мовы, беларускай культуры, нацыянальных традыцый паслядоўна змагаецца штотыднёвік «Літаратура і мастацтва». За гэту стойкую пазіцыю і паважаюць яго чытачы.

На сваёй планёрцы супрацоўнікі рэдакцыі раённай газеты «Ленінскі кліч» вырашылі ўсе падпісацца на штотыднёвік. Спадзяёмся, што нас падтрымаюць усе, каму дарагія інтарэсы беларускага народа. У «ЛіМа» шмат сяброў і будуць з'яўляцца ўсё новыя і новыя. А для тых, хто паследуе нашаму прыкладу, нагадваем, што падпісная цана на штотыднёвік — 5 рублёў 16 капеек».

Такую інфармацыю змясціла на сваіх старонках наша раёнка.

У. ДАЛЕЦКІ,
супрацоўнік рэдакцыі
Крычаўскай раённай газеты
«Ленінскі кліч».

□

**З ВЯЛІКІМ СМУТКАМ** прачытаў матэрыял «Беларускаму друку пагражае катастрофа». Цалкам падзяляю думкі рэдакцыі па гэтых праблемах. Трэба неадкладна нешта рабіць, каб беларускамоўныя выданні выйшлі з жабрацкага становішча. Я пастаянна прыношу «ЛіМ» у нашу настаўніцкую, бо ў кожным нумары газеты ёсць вельмі цікавыя матэрыялы. У наступным годзе з выданняў, што выходзяць у рэспубліцы, у школу будуць ісці пераважна газеты і часопісы на роднай мове.

Але гэтага, вядома, недастаткова, таму раблю наступныя захады. Прыпыняю членства ў партыі па матывах нязгоднасці з палітыкай КПБ у пытаннях Адраджэння Бацькаўшчыны. Вызваленыя грашовыя сродкі (а гэта 70 рублёў штогод) аддаю на падтрымку беларускаму друку. Выпісваю ў гэтую падпісную кампанію 5 экземпляраў «ЛіМа» для сваёй сям'і, а таксама для сяброў. Згодзен распаўсюджваць «ЛіМ» у розніцу, а таксама ў межах ТБМ буду весці працу па распаўсюджванні беларускага друку.

Л. ГАРАВЫ,
дырэктар Вярхоўскай СШ.
г. п. Гарадок.

□

**ЗАРАЗ ІДЗЕ ПАДПІСКА** на газеты і часопісы. Вырашыў я выпісаць сабе на наступны год «Народную газету». Зазірнуў у каталог і ўбачыў: «Народная газета» (на русском языке). Наколькі я ведаю, на сесіі Вярхоўнага Савета БССР дэпутаты прынялі рашэнне аб выданні яе на беларускай і рускай мовах (я ўжо не аспрэчваю гэта рашэнне). Чаму ж тады «Саюздрук» прапануе яе падпісчыкам толькі на рускай мове, хоць выходзіць яна, дарэчы, на абедзвюх? Не кажу пра новыя мясцовыя выданні, якія цяпер выдаюцца толькі на рускай мове. У Магілёве, напрыклад, з'явіліся «Вестник Могилева», «Днепровская неделя». У «Магілёўскай праўдзе» раз-пораз даюць старонку на рускай мове. «7 дней» заяўляе, што выданне на роднай мове з'яўляецца стратным. Я асабіста ў гэтым бачу свядомае супраціўленне ўжыванню роднай мовы. Калі ёсць закон, то павінен быць механізм забеспячэння яго рэалізацыі, кожны павінен несці адказнасць за яго невыкананне. У нас жа атрымліваецца так: Закон аб мовах прынялі, абвясцілі дэкларацыю аб суверэнітэце, але, відаць, толькі для таго, каб фармальна не адставаць ад іншых рэспублік, выглядаць на паперы больш-менш прыстойна.

Яшчэ я выпісваю беластоцкую «Ніву». У красавіку гэтага года атрымаў апошні нумар і больш газета да мяне не паступала. Чуў я, што беластоцкім беларусам, якія з цяжкасцю выдаюць сваю газету, наша рэспубліка абяцала дапамагчы з паперай і што хутка газета зноў з'явіцца на Беларусі. Ці не чарговыя гэта абяцанкі?

М. СМОЛЯР,
інжынер-канструктар.
г. Магілёў.

□

**СПАДЗЯВАУСЯ**, што пасля прыняцця Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы з'явяцца новыя беларускамоўныя перыядычныя выданні або будуць пераведзены на беларускую мову некаторыя рускамоўныя. Пра гэта не раз гаварылася ў розных пастановах, але, як кажуць, «воз и ныне там». Больш таго, робіцца ўсё наадварот, ліквідуюцца беларускамоўныя выданні і выдаюцца новыя на рускай мове. Хіба разумна, што «Чырвоная змена» становіцца тыднёвікам? Моладзь тым самым пазбаўляецца штодзённага кантакту з роднай мовай. Затое з'явіўся «Ласковый май», нібы не хапала нам толькі гэтага выдання, нібы яно самае патрэбнае. А безліч розных шматтыражак, дадаткаў да абласных газет, рэкламных выданняў? І ўсё на рускай мове. Вось вам і закон!

Спадзяваўся, што новая «Народная газета» будзе, нарэшце, беларускай газетай. Але ж дзе там! Мы дайшлі да таго, што паставілі на галасаванне мову выдання БЕЛАРУСКАГА парламента! Гэты факт перакрэсліў усе мае спадзяванні: пераканаўся, што цяперашні парламент — не за адраджэнне нацыі.

Усюды гавораць аб правах чалавека, аб суверэнітэце, а я ў сябе на Радзіме не маю права на беларускую газету на роднай мове. Тыднёвік «7 дней» заявіў са сваіх старонак, што беларускамоўнае выданне яго будзе стратным. Але што падмацоўвае гэтае сцвярджэнне? Хіба хоць адзін раз (пробны) ён выйшаў на роднай мове? Дык, можа, варта было б спачатку паспрабаваць, а потым сцвярджаць? Я наогул нечага не разумею. Гаворка ідзе аб выжыванні нацыі (без мовы няма народа), а «7 дней» лічыць грошы!

Яшчэ горшае становішча з газетамі на Гродзеншчыне, дзе жывуць мае бацькі і шматлікія сваякі. Там выбар такі: «Сельская газета», «Гродненская правда» і «Сельская новь» (людзі вымаўляюць — «Сельска ноў») — усё на рускай мове. Дарэчы, «Сельская новь» правяла апытанне, на якой мове ёй выдавацца. Бацькі мае на анкету не адказвалі, аднавяскоўцы — таксама, але ў размовах казалі: «Мы разумеем па-руску і па-беларуску, і па-польску, хай як хочуць, так і пішуць». Тыпова беларускі адказ. Дык навошта гульня ў анкеты?

П. ЛУБОЎСКІ.
г. Мінск.

---

размову з усімі, бо адчуваў — не стрымаецца, скажа праўду, а для Пустахода гэта сапраўды гора на гора.

— Іван, угавары дзяцей, што нельга ім туды. Ірыну ўгавары, каб ехала з імі дадому...

Іван Іванавіч рэзка падняў галаву — так, што рухам гэтым адкінуў з вачэй, з ілба мокрыя валасы. Яго скаланула гэтае **дадому.** Да якога дому? Да чыйго? Няма ў дзяцей дому! Няма маці! Пыльчанка ў вачах яго прачытаў: пра гэта сват падумаў. І не даў яму адказаць — амаль крыкнуў сыну:

— І ты, Глеб! Да будзь ты мужчынам! Загадай жонцы... Я пайшоў пазваніць...

Адышоўшы, сцяміў: нечакана, у парыве, ён сказаў людзям усю праўду. Нядобра сказаў, не падумаўшы. Пра начальства і без таго гавораць многа усялякай небыліц, а ён як пацвердзіў адну з псіхалагічных легенд: пра **сваіх** падумаў, **сваіх** трымае далей ад гэтай праклятай зоны, а ім, прастакам, адбягае хуткае вяртанне. Неабачліва і неразумна да крыўднага. Якраз ён адзін з тых, хто змагаецца з бяздумнымі аптымістамі, што абяцаюць эвакуіраваным хуткі зварот у родныя сёлы.

На падыходзе да будынка праўлення ўбачыў праз адчыненыя шырокія вокны — у кабінетах замітусіліся людзі. Як хавалі штосьці ад кагосьці. Ці не Караку? Адчуў страх ад магчымай сустрэчы з ім.

Праўленцы сустрэлі старшыню райвыканкома пачціва і баязліва. Ён ведаў: Карака не ўмеў добра гаспадарыць, але каманду сабе падабраць умеў, на гэта людзі яго тыпу маюць асаблівы талент. Бухгалтараў гэтых, планавікоў, аграномаў, заатэхнікаў ён, Пыльчанка, неаднойчы лавіў на прыпісках, для ўласнай выгоды яны моцна спаяныя і спетыя. Але пакуль моцна трымаецца патрон. Карака ўмеў трымацца. Самакрытыкавацца ўмеў. За гэта ці невядома за што яго падтрымлівалі. Лаялі і выручалі. Гэтак, між іншым, рабіў і ён, Пыльчанка. Ліслівасць Каракавай каманды сведчыла, што кіраўніка свайго яны ўжо спісалі. І гэта Уладзіміра Паўлавіча абурыла таксама. Ён адчуў глыбокую пагарду да іх, мабыць, у жыцці яшчэ не было, каб ён зняважыў адразу цэлую групу, добры тузін людзей. Выявіў гэта тым, што аб справах сельскагаспадарчых, будаўнічых, ні з кім з іх — ні з намеснікам, ні з галоўным аграномам — гаварыць на стаў, хоць меў намер крута пагаварыць. І не спытаў нават: дзе Карака? Поўная пагарда. Пазваніў — і пайшоў, не развітаўшыся.

Ірына, дзеці паехалі, ніхто іх не ўгаварыў. Скарыўшыся, Уладзімір Паўлавіч уціснуў іх разам са сваццяй і Вольгай Андрэеўнай у сваю машыну.

Варта была папярэджана, але загадзя вароты чамусьці не адчынілі.

Пахавальны картэж спыніўся перад калючым дротам. І тады збялелая Ірына сказала свякрові:

— Мама, мы паедзем дадому. Паедзем, дзеткі?

Яна ўпершыню ўбачыла дрот. Спалохалася? Не. Пра радыяцыю яна ведала больш, чым любы з прысутных. Баязлівай не была. Калі і спалохалася, то за дзяцей—за сірот сестрыных і... за свайго. Дзіўна, што і дзеці, якія так упарціліся, тут, перад дротам, моўчкі згадзіліся паехаць з цёткай у горад. Але развітанне іх з маці скрывяніла бабулям і дзядам, ды і ўсім астатнім, сэрцы. Такога развітання, можа, не было яшчэ на зямлі — такой невядомасці не толькі таго свету, куды перасяліцца маці, але і гэтага, дзе пачыналі жыццё яны, малыя, дзе ім трэба жыць. Што іх чакае?

Падсаджаная ў кузаў Тома з крыкам упала маці на грудзі:

— Мамачка! Забяры мяне! Я не хачу! Не хачу!

Цяпер ужо Ванечка, стоячы ў кузаве ля труны, рыдаючы, прасіў сястру:

— Томачка! Ну, не трэба... не трэба так.

Плакалі ўсе. Не плакала адна Ірына. Развітаўшыся з сястрой, яна рашуча ссадзіла дзяцей з кузава, запіхнула ў «Волгу».

Пыльчанка махнуў шаферу, і машына крута развярнулася.

Паставы адчыніў вароты пахавальнаму картэжу.

**Пятрусь МАКАЛЬ**



□

Нам казалі, што мы — цагліны,
Што сябе мы павінны класці
У будову вялікай краіны,
У падмурак людскога шчасця.
Што казалі, таму і верылі,
Невымерную вераю мералі
Мы адлегласць да светлай мары,
Той, якую не засцяць хмары.
А каб ворагі нас не кралі,
Вокны мы заштрыхоўвалі кратамі,
Свой палац, што ўздымаўся дотам,
Спавівалі калючым дротам...
Дзе мы ўсе, не магу разабрацца,
Я, падданы цагельнага брацтва,
Мур спрабую рассунуць рукамі,
Каб дастаць з-за пазухі камень...
Словы трызняцца несвядома:
Што мне гэтак у сэрцы коле?
Гэта судная трэшчына дома
Мне баліць,
Мне смыліць як ніколі.
Ці раскажа чырвоная цэгла,
Знітаваная кроўю ў сценах,
Колькі нас ахвярна палегла,—
І вядомых, і безыменных.
Мы, народжаныя ў мундзіры,
Гадаванцы казарменных клетак
Што пакінем у спадчыну? Дзіры!
Божа праведны, як жа гэтак?

## Уваход і выхад

Учора ўрачыста ўваходзілі,
А сёння таропка выходзяць.
Учора яшчэ верхаводзілі,
А сёння абрыдла, выходзіць?
Куды ж вы гэтак імкліва
З абдымкаў свайго волата,
Што вас калыхаў руплліва,
Дзеці Сярпа і Молата?
Вы ж працавалі заўзята,
Ведайце, не забыта,
Колькі Сярпом вашым зжата,
Молатам вашым пабіта.
Яшчэ падбіваюць нябёсы
Знішчальны рахунак бясконцы,
І вашы маленькія ўзносы
Ёсць у злачыннай скарбонцы...
Таму і гатовы мы міла
Паспагадаць хоць трохі
Нябогам, якіх стаміла
Ноша сумлення эпохі...
Дзень аддзяліўшы ад ночы,
Яны не зракаюцца выгад.
Раз увайшлі ўжо аднойчы,
Знаходзяць, нарэшце, выхад.
Творцам бязбожнай былі
Самаахвярным здаецца
Пакінуць усё, што зрабілі,
Тым, хто яшчэ застаецца.

## На рынак

— На рынак!
— А чым гандлююць?
Пампушкамі.
Стужкамі.
Птушкамі.
Пакупнікоў габлююць —
Чырвонцы ляцяць стружкамі!
Да дзівадайных палатак,
Да мандарынавых хатак —
Шматпавярховых скрынак,—
На рынак!
Па пераспелы персік,
Па кавуновыя персі,
Па слодыч красунь-ландрынак —
На рынак!
Брацтва базарнае здзейсніць
Спяшаюцца тлумна сябры:
Інжыр ерэванскі — па дзесяць,
Слуцкая бэра—па тры.
Гандлёвым адданыя хвалям,
Вагаемся, ганім і хвалім,
Хістаемся, калыхаемся,
Мы дыхаем,
Мы задыхаемся...
Суцішцеся, што за бяда вам!
Да гандляра паветра
Змяіцца пругкім удавам
Чарга на паўкіламетра.
Уласнік, спавіты аўчынаю,
Позірк нацэльвае люты:
— Не прадаю за айчынныя...
. . . . . . . . . . . . .
Валюты —
Глыток валюты!

Шанц твой апошні спрабуем:
Рынуўшы,
Не адрынуць!
Заплюшчыўшы вочы, шыбуем,
Быццам у бездань,
На рынак.

□

Прывід блукаў па Еўропе,
І ад яго з той пары
У абстраляным акопе
Свет адбіваўся стары.
У прывідзе, як у хлебе,
Людзі ратунак знайшлі:
Раю няма на небе —
Створым яго на зямлі!
Усё, што было, бракавалі
Градам удараў ламы,
Касцямі братоў бруквалі
Дарогу ў наступнае мы.
То статкавым гуртам, то строем
Пад барабанны грай
Канвойнымі ці пад канвоем —
У непазбыўны рай.
Мы ў чэргах кіламетровых,
А завадатары зграй
Абцасамі па галовах —
Цiснуць у прывідны рай...
Узвыеш ад сумнай весці
Голасам сціснутых скаб:
— Не даяце пад'есці,
Дайце напіцца хаця б!
Ад ціскaніны злачыннай
Хутка — пабачыце вы! —
Асколак Вялікай Айчыннай
Выстраліць з галавы...
Гляджу з-пад рукі: якая
Эра з туману ўстае?
Прывід ужо не блукае,
Прывід ужо растае.

□

Калі Ўсявышні пакліча,
У незямной скрусе
Змяню я сваё аблічча —
У птаха ператварэуся.
І над туманнай шырай,
Прарваўшы зямную асаду,
Пырхну ў нябесны вырай,
У воблакі белага саду.
Крыламі высі даследую,
Але яшчэ не ведаю,
Што ў мяне,—
Дзюба ці дзюбка,
Хто я,—
Крумкач ці галубка...
Пра хлеб свой надзённы мяркуем,
Не знаючы ў пошуку стомы,
Каркаем або буркуем,
Не дбаючы,
Хто мы
І што мы.
Каб мог я акрэсліцца з назваю,
Душы маёй—боскую школу б...
Цэлым жыццём адказваю,
Хто я,—
Крумкач ці голуб.

## Зялёная аптэка

Гаі, калі ласка, хваробы свае!
Зёлкі і травы —
Ратоўныя лекі
Прадмесце Трáецкае выдае
Знямоглым
Рукамі зялёнай аптэкі.
Бачыш,
З зярняткамі горкімі струк?
Ад рабалепнай лісліваcці лечыць
Тых, хто прад моцным згінаецца ў крук,
Пакораю душы свае нявечыць.
І хай ад спалоху цябе не трасе,
Што зелле пякучае, як атрута.
Выратаванне яно нясе:
Мята — ад пыхі,
Ад зайздрасці —рута!
Калі ж бракуе ў цябе дабрыні,
Калі на душэўную чэрствасць хварэеш,
Лыжку настою шыпшыны глыні,
І сам не заўважыш, як падабрэеш...
Кліча аптэка:
— Пакуль выдаю,
Прымайце зёлкі мае, як замову
Ад забыцця на матулю сваю,
Ад забыцця на родную мову!
Каб дзеці і саджанцы спорна раслі,
Болі свае і грахі не лічыце,
Дотыкам да бацькоўскай зямлі
Вы іх
Лячыце,
Лячыце,
Лячыце!
Чуеш, зямляча,
Штодзённа заходзь,
Каб уваскрэснуць душою навекі,
Хоць бы на хвілю, хоць мімаходзь
У велічны храм зялёнай аптэкі!



**Ракаў, мястэчка маляўнічае...**

Фота Э. ЭЛЬКСІНА.

*На атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР*

# Ахвярам сталіншчыны

Вылучэнне на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР Восьмай сімфоніі Фёдара Пыталева нават для Саюза кампазітараў справа выключная. Знаёмлюся са спісам прэміраваных твораў беларускіх кампазітараў — лаўрэатаў папярэдніх гадоў. Сярод іх — оперы, араторыі і кантаты, вакальна-сімфанічныя паэмы і песні... Ну, вось, нарэшце, і сімфоніі з хорам.

Але ж усе гэтыя творы звязаныя са словам. Такая ўжо завядзёнка, і гэта нашы бяда і боль, што ў савецкі час да так званай «чыстай музыкі» ідэолагі ад мастацтва ставіліся з вялікім недаверам. Сумную вядомасць набыла пастанова ЦК ВКП(б) 1948 года, дзе сярод іншага выкрываецца антынародная сутнасць «сложных форм инструментальной бестекстовой музыки». Што гэта? Ці то ваяўнічае бескультур'е, ці то імкненне дыскрэдытаваць жанр, які ў еўрапейскім мастацтве традыцыйна звязваўся з філасофскім зместам, роздумам мастака пра чалавека і навакольны свет? Але так ці інакш паступова ў масавай свядомасці складваліся негатыўныя адносіны да жанру. І спатрэбяцца велізарныя намаганні, магчыма, не аднаго пакалення, каб штосьці тут змяніць.

Для Ф. Пыталева сімфонія — натуральная форма выказвання. Восем сімфоній за 20 год — і кожны раз аўтар імкнецца знайсці новы паварот тэмы. Кампазіцыі гэтых твораў таксама не падобныя адна да адной. Аб'ядноўвае іх трактоўка жанру. Гэта лірыка, дзе галоўнае — не замалёўкі з натуры ці адлюстраванне жыццёвых з'яў, але адносіны да іх мастака, ягонае адчуванне той ці іншай падзеі ў нашай гісторыі. Гэта мы адчулі і слухаючы Сёмую сімфонію Пыталева, якая прагучала ў дні святкавання юбілею Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Кампазітар адмаўляецца ад традыцыйнага ўвасаблення ў драматургіі твора глабальных катаклізмаў, сутыкнення варожых сіл. Ён успрымае трагедыю народа праз асабістае гора — смерць маці. Такое адчуванне агульначалавечага як свайго, крэўнага надае твору вялікую эмацыянальную выразнасць. Тое ж у Восьмай сімфоніі. Яна прысвечана памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій. І хаця яе драматургія пазбаўлена канфлікту — уся сімфонія прасякнута адзіным настроем смутку, журбы,—гучанне музыкі вельмі экспрэсіўнае, напружанае, і ў кульмінацыях дасягае вялікай трагедыйнасці.

Ф. Пыталеў, размаўляючы са слухачамі на сучаснай музычнай мове, не адмаўляецца ад агульнавядомых музычных сімвалаў, якія за доўгае гістарычнае развіццё набылі пэўны сэнс і эмацыянальную афарбоўку. Нават неспрактыкаванае вуха пачуе тут усе атрыбуты жалобнай музыкі — пахавальныя званы, рытм мернага шэсця, сурова-стрыманы харал. Аб'ядноўвае іх, надае спецыфічную нацыянальную афарбоўку галоўная тэма сімфоніі, у якой адразу пазнаецца беларускі народны плач-галашэнне. Тэма абумоўлівае скразное развіццё, драматургію буйной хвалі. Кожная такая хваля заканчваецца кульмінацыяй, якая гучыць як усплёск роспачы. А разам узнікае даволі арыгінальная кампазіцыя, якая сведчыць пра пошукі новых форм, што адпавядалі б менавіта гэтай вобразнай канцэпцыі твора. Яго выразнасць узмацняецца тэмбрава-аркестравымі сродкамі, цікавымі знаходкамі ў гэтай галіне.

Так ужо склалася, што сімфанічныя творы беларускіх кампазітараў, назалежна ад іх мастацкай каштоўнасці, рэдкія госці на канцэртнай эстрадзе. Вось і Восьмая сімфонія Ф. Пыталева, двойчы адгучаўшы ў канцэртах і меўшы пэўны поспех, думаю, не хутка будзе ўзноўлена ў рэпертуары аркестра. Але яе можна пачуць па радыё. Услухайцеся ў гэтую сімфонію, і вы зразумееце, што і сродкамі музычнай выразнасці можна ўзвесці годны помнік ахвярам сталінскіх рэпрэсій.

**Радаслава АЛАДАВА.**

# ЯК БЫЦЬ ДАЛЕЙ?

Адбыўся справаздачна-выбарчы сход партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі. Са справаздачай парткома выступіў яго сакратар В. Супрунчук. У абмеркаванні даклада прынялі ўдзел А. Жалязоўскі, Г. Дзмітрыеў, В. Мыслівец, У. Якутаў, В. Хомчанка, Я. Садоўскі.

Гаварылася аб складанасці і няпэўнасці сітуацыі, у якой апынулася сёння грамадства, аб неабходнасці зрабіць усё магчымае, каб выратаваць беларускую культуру, літаратуру, якая, як сведчаць падзеі апошняга часу, па сутнасці кінута ў пастку рыначнай эканомікі. Прымаецца Закон аб мовах у Беларускай ССР, беларуская мова аб'яўляецца нарэшце дзяржаўнай, апублікаваны праект Закона аб культуры, прыняты як быццам іншыя захады, каб уберагчы, развіваць далей здабыткі нацыянальнай культуры. І разам з тым узнікла пагроза над беларускамоўнымі выданнямі, у першую чаргу, над літаратурна-мастацкімі часопісамі і штотыднёвікам «Літаратура і мастацтва». Рынак яшчэ не запрацаваў, ён ужо заяўляе свой дыктат: і тое нявыгадна, і гэта нерэнтабельна. Як жа ў такім разе быць з выданнем мастацкай, краязнаўчай літаратуры, твораў для дзяцей і юнацтва? Ускладняецца і работа Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР.

Пытанні, пытанні... Іх на сходзе гучала шмат. Не заўсёды знаходзіліся на іх адказы. Што ж, не такі час, каб рабіць нешта з наскоку, бяздумна прымаць аднагалосна тое ці іншае рашэнне. Зрэшты, глядзячы якое рашэнне. На сходзе аднагалосна была прынята рэзалюцыя ў падтрымку ліста беларускіх пісьменнікаў на адрас ЦК Кампартыі Беларусі, у якім выказвалася трывога за становішча, у якім апынуліся сёння беларуская літаратура, культура, кнігавыдавецкая дзейнасць.

На сходзе выступіў загадчык ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ А. Русецкі.

Выбраны новы склад партыйнага камітэта: Яўген Каршукоў (сакратар), Валянціна Аколава, Генрых Далідовіч, Сяргей Законнікаў, Васіль Зуёнак, Алесь Марціновіч, Павел Місько, Леанід Прокша, Браніслаў Спрынчан, Анатоль Сульянаў, Віктар Супрунчук, Іван Чыгрынаў, Аляксандр Шабалін.

Выбраны дэлегаты на VII раённую і XXX гарадскую партыйныя канферэнцыі.

## Чарговы нумар «Нашага слова»

**Сёмы раз прыйшоў да чытача бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны «Наша слова». На першай старонцы выява Васіля Цяпінскага — так адзначана 450-годдзе з дня нараджэння беларускага пісьменніка, перакладчыка на родную мову «Евангелля», вялікага асветніка і гуманіста. Журналістка Р. Гамзовіч звярнулася да некаторых дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР з пытаннем: «Як вы ставіцеся да праблемаў мовы ды нацыянальнай культуры ў Рэспубліцы?» Пад назвай «Наша слова» ў парламенце» змешчаны адказы.**

**Друкуюцца ўрывак з паэмы М. Арочкі «Судны дзень Скарыны», верш Г. Тумаша «Белае поле Францішка Скарыны», артыкулы В. Рагойшы «Покліч Бацькаўшчыны», П. Біча «Каб закон запрацаваў», І. Германовіча «Анатоль Багдановіч», развагі С. Дубаўца «Мова», чытацкія лісты, шэраг іншых матэрыялаў.**

## Смутак Украіны — смутак Беларусі

**На шматпакутнай украінскай зямлі з'явіўся помнік, які нагадвае аб тым генацыдзе, што напаткаў братні народ у гады сталінізму. Інакш, чым генацыдам, прытым мэтанакіраваным і прадуманым, не назавеш страшны голад, які ў пачатку трыццатых гадоў звёў у магілу мільёны людзей.**

**Курган, што закладзены каля старадаўняга Мгарскага Прэабражэнскага манастыра, увенчаны 15-метровым крыжам. На ім надпіс: «Голадамор. 1932—1933».**

**На адкрыцці гэтага кургана людскога смутку выступіў, сярод іншых, і старшыня праўлення Беларускага фонду культуры І. Чыгрынаў. Ён, у прыватнасці, зазначыў, што вялікая бяда спасцігла некалі Украіну. Гэты голад быў справай рук буйных і злых сцэнарыстаў і рэжысёраў. Цяпер, як і ў тыя цяжкія часы, беларусы разам з украінцамі. Мы ўшаноўваем памяць загінуўшых і праклінаем катаў.**

**Так, агульнае ў нас гора. Гэта падкрэслена і ў звароце Патрыярха Маскоўскага і ўсея Русі Алексія II, зачытанае на памінальным малебне: «Сёння плача аб дзецях сваіх, як старадаўняя Рахіль, Украіна-Маці... Смуткуюць разам з ёй і Расія, і Беларусь, і іншыя сёстры-рэспублікі, якія адчулі ў свой час цяжар разбурэння і голаду».**

**НАШ КАР.**

# ЦІ ТРЫВАЮЦЬ «ПРЫВАДНЫЯ ПАСЫ»?

**Нататкі далегата VIII з'езда Саюза журналістаў БССР**

Даўні знаёмы газетчык, што сядзеў побач, убачыўшы, што я нешта занатоўваю ў блакнот, крануў за плячо: «Будзеш пісаць пра з'езд, абавязкова адзнач, што сакратар ЦК па ідэалогіі Пячэннікаў нават не палічыў патрэбным сюды прыйсці». «Вы па ім засумавалі?» — пацікавіўся я. «Ды не, — крыху сумеўся сусед, — але ж дзіўна, толькі ўчора, здаецца, яны там, наверсе, называлі нас, журналістаў, «падручнымі», «прывадными пасамі» партыі»...

Хто яго ведае, чаму нашы ідэалагічныя прапаведнікі рашылі гэты раз не выступаць перад яшчэ нядаўна паслухмянай пішучай паствай. Зрэшты, што ім было сказаць прадстаўнікам больш як трохтысячнай арміі журналістаў рэспублікі? Заклікаць быць адданымі дыскрэдытаваным догмам? Ці, аддаючы даніну сённяшнім зменам у грамадстве, гаварыць пра свабоду слова, думкі, дэпартызацыю рэдакцый?

Гэты журналісцкі з'езд — другі ў маім жыцці. Першым быў... першы ўстаноўчы з'езд, які адбыўся ў канцы пяцідзесятых гадоў. З таго часу шляхі нашы з саюзам амаль не перасякаліся. Але я не схільны быў скардзіцца на гэткую ўзаемную абыякавасць. Праўда, з майго боку яна тлумачылася досыць празаічна—я не бачыў у саюзе свайго прафесійнага абаронцу, і потым не было на маёй памяці ніводнага выпадку, калі б саюз падтрымаў нейкае вострае выступленне газеты, абараніў яе ад гневу і помсты тых, хто мае ўладу. Як скажа на з'ездзе адзін з дэлегатаў, Саюз журналістаў на працягу многіх гадоў быў інструментам ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ. Менавіта адтуль зыходзіў няпісаны «закон», згодна з якім кожны чарговы галоўны рэдактар партыйнай «Звязды» аўтаматычна займаў пасаду старшыні праўлення саюза.

Але подых часу ўварваўся і сюды, на з'езд. І. Макаловіч, які апошнія гады ўзначальваў Саюз журналістаў (таксама былы галоўны рэдактар «Звязды»), ужо не робіць доўгага даклада, у якім па традыцыі, перад журналісцкім корпусам ставяцца надзённыя задачы ў адпаведнасці з апошнімі рашэннямі партыі, а абмяжоўваецца пятнаццаццю хвілінамі ўступнага слова, дзе мо ўпершыню гучаць такія выразы, як «Мы не будзем больш «прываднымі пасамі» партыі», «мы — друк, чацвёртая ўлада ў рэспубліцы»...

На жаль, «улада» гэтая носіць пакуль што чыста ўяўны характар. Асабіста я не вельмі веру ў тое, што, прынамсі, партыйная ўлада адмовіцца і ад свайго дыктату ў друку. Хіба што будзе рабіць гэта больш завуаліравана. У гэтым плане маю ўвагу прыцягнула выступленне У. Бацкалевіча, супрацоўніка «Политического собеседника» — выдання, якое ці не з самага пачатку заваявала адыёзную славу. Прамоўца з першых слоў аддзяліў сябе ад палітыкі, якую праводзяць, як ён сказаў, «тры самыя высокааплачваемыя супрацоўнікі часопіса». Адзначыў ён і такую цікавую дэталь. Выслухаўшы на апошнім пісьменніцкім з'ездзе рэзалюцыю, якая выкрывала кансерватыўную, недэмакратычную пазіцыю «Политического собеседника», сакратары ЦК КПБ А. Камай і В. Пячэннікаў, якія там прысутнічалі, аніводным словам не выказалі сваіх адносін да гэтай рэзалюцыі. Прайшло некалькі дзён, і на партыйным сходзе часопіса прадстаўнік ідэалагічнага аддзела ЦК адзначае, што лінію яго яны ўхваляюць і наогул «Политический собеседник» вельмі падабаецца «самому Яфрэму Яўсеевічу».

Што ж датычыцца абласных і раённых газет, дык тут і камуфляжу ніякага не патрабуецца: пад загалоўкамі ў іх абазначана, што яны з'яўляюцца органам партыйных камітэтаў. Ну, а там, дзе рэдактары праяўляюць характар, самастойнасць, з імі не цырымоняцца, як гэта было, напрыклад, па расказе аднаго з прамоўцаў, у Слаўгарадзе, дзе рэдактара «за непаслухмянства» звольнілі з работы. Нямала непрыемнасцей прыйшлося перажыць рэдактару Маларыцкай раённай газеты У. Захарэвічу, які пасмеў канфліктаваць з райкомам партыі.

Шмат гаварылася на з'ездзе аб сацыяльнай неабароненасці журналістаў — нізкія заробкі, дрэнныя ўмовы працы, дрэнная забяспечанасць жыллём і г. д. Як адзначалі прамоўцы, друк наш не падрыхтаваны да пераходу рэспублікі на рыначныя адносіны. Мала хто ўяўляе сабе, як ацалець у жорсткіх умовах рынку, калі трэба лічыць кожную капейчыну пры набыцці паперы, паліграфічнага абсталявання, той жа друкарскай фарбы і г. д. «Трэба навучыцца самім зарабляць грошы», — сказаў старшыня асацыяцыі журналістаў-ветэранаў «АЖУР» А. Аўрамчанка. Мяркуючы па ягоных словах, справы асацыяцыі ў поўным ажуры. Наладжаны выпуск некалькіх камерцыйных выданняў, якія даюць неблагі прыбытак — хапае і на дапамогу ветэранам, на вытворчыя патрэбы, і г. д.

На журналісцкім форуме ўзнікла пытанне аб стварэнні свайго прафсаюза. Многія прамоўцы выказалі слушную, на мой погляд, думку аб выхадзе з прафсаюза работнікаў культуры, пад сцягам якога газетчыкі «змагаліся» дагэтуль. Выступаўшая ў спрэчках прадстаўніца БРК «культурнага» прафсаюза палохала журналістаў рознымі непрыемнасцямі, якія іх напаткаюць, калі яны скасуюць той «шлюб». Слухаў яе і не мог не падумаць, што імпэт прафсаюзнага боса, відаць, тлумачыцца не клопатам аб журналісцкай брацii, а нейкімі сваімі «ўнутранымі» меркаваннямі. Так гэта было ці інакш, але з'езд вырашыў пачакаць са стварэннем свайго прафесійнага саюза.

Вялася на з'ездзе і гаворка аб наданні саюзу самастойнасці. Але, у адрозненне ад грузінскіх і ўкраінскіх калег, было вырашана не аддзяляцца арганізацыйна і ідэйна ад Саюза журналістаў СССР. Праўда, выказвалася пажаданне, каб тыя шэсць працэнтаў агульнага ганарару журналістаў Беларусі, якія дагэтуль забірала саюзнае праўленне ў Журфонд СССР (а гэта — сотні тысяч рублёў), пакідаць у рэспубліцы.

Доўгай была дыскусія аб новым Статуце Саюза журналістаў БССР, які з папраўкамі быў большасцю галасоў прыняты.

З'езд прыняў рэзалюцыю, у якой, прынамсі, ёсць зварот да Савета Міністраў БССР аб фінансавай дапамозе беларускамоўным выданням рэспублікі.

З'езд абраў раду і старшыню праўлення Саюза журналістаў БССР. Ім стаў намеснік рэдактара часопіса «Крыніца» Л. Екель.

**М. ЗАМСКІ.**

# НАША ТРЫВОГА НАРАСТАЕ З КОЖНЫМ ДНЁМ

(Пачатак на стар. 4).

Паважаныя таварышы! Калі мы перавядзём культуру цалкам на рэйкі камерцыі, мы даб'ём, даканаем і тыя рэшткі духоўнасці, маральнасці, якія ў нашым грамадстве яшчэ засталіся, на якіх яно яшчэ трымаецца. Фактаў, якія сведчаць, што можа чакаць нашу асвету і культуру ва ўмовах пераходу да рыначных адносін, калі дзяржава не паклапоціцца, не возьме пад абарону гэтыя сферы, ужо многа. Напрыклад, у два разы паднялі цэны на часопісы і газеты. І вось бібліятэкі і школы, школьныя кабінеты застаюцца на 1991 год без жыццёва неабходнай літаратуры, бо грошы ж былі выдзелены без уліку павышэння цэн. І ў першую чаргу гэта б'е па беларускіх выданнях, якія апынаюцца літаральна ў катастрафічным становішчы. Нават партыйныя выданні, спасылаючыся на новыя эканамічна-фінансавыя ўмовы, тыя выданні, што 50, 60 а то і 70 гадоў выходзілі на беларускай мове, пачынаюць пераходзіць на двухмоўе, аб'яўляюць сябе руска-беларускімі. Дарэчы, дазвольце не паверыць, што наша магутная партыя раптам так абяднела, што рашыла сэканоміць і папраўіць свае фінансавыя справы за кошт беларускай мовы, яе выцяснення з ужытку ў партыйных выданнях. Значыць, прычыны ці матывы іншыя. Проста вялікія патрыёты рэспублікі выкарыстоўваюць магчымасць, каб аслабіць працэс нацыянальнага адраджэння Беларусі, яе мовы і культуры. І гэта, заўважце, тады, калі Вярхоўны Савет абвясціў Дэкларацыю аб суверэнітэце Беларусі, калі прынятыя Закон аб дзяржаўным статусе беларускай мовы і Савет Міністраў зацвердзіў Дзяржаўную праграму ажыццяўлення Закона аб мовах у БССР. Я прашу прабачэння за, можа быць, залішне рэзкія словы, але мне асабіста бачыцца ў гэтым нешта вельмі непрыгожае, як бы чыніцца нейкае адступніцтва, нейкая здрада, адным словам, нешта з гэтага роду, паўтараю, вельмі непрыгожае. Што ж чакаць ад гаспадарнікаў, калі тэарэтыкі, ідэолагі ідуць на такое? Сёння я атрымаў ліст трох рэдактараў беларускіх часопісаў — «Полымя», «Нёман» і «Беларусь». Гэта трагічны дакумент, таварышы, гэта суцэльны боль і крык, але гэта і прысуд дзяржаве, грамадству, якія так не клапоцяцца пра будучыню нацыі, такія абыякавыя да лёсу нацыянальнай культуры. Выснова аўтараў пісьма: мы не можам глядзець на культуру вачыма недальнабачных фінансістаў. Рэдакцыйныя калектывы гэтых часопісаў пад пагрозай распаду. Часопісы могуць перастаць існаваць, зусім рэальная перспектыва на самы бліжэйшы час.

Хачу закончыць тым, з чаго пачаў. Калі дзяржава не стварае ўмоў для развіцця інтэлекту нацыі, гэта, выбачайце, не мудрая дзяржава, яна асуджана на заняпад.

І зусім на заканчэнне — аб некаторых прапановах, якія з гэтай трыбуны прагучалі.

Давайце, таварышы, спакойна і больш разважліва рашаць пытанні, дзеля чаго мы тут сабраліся. Калі мы прымем некаторыя зробленыя прапановы, у сэнсе — калі мы іх прымем сёння, мы рэзка наблізім хаос і толькі. Што значыць, напрыклад, сёння прымусіць урад рэспублікі пайсці ў адстаўку? Хіба ў нас дастаткова падстаў, каб выказаць яму недавер? Хіба мы за два з палавінай месяцы, як зацвердзілі яго, пераканаліся ўжо ў гэтым? Што значыць сёння ці заўтра, ці нават паслязаўтра аб'явіць у рэспубліцы новыя выбары? Хоць трохі рэальна мы ўяўляем гэта ці не? Народ пойдзе на гэта ці не? Ці ён зойдзе ў поўны адчай і роспач ад нашай бездапаможнасці і ад таго, што не ведае, што ж рабіць і як быць? І пачнецца нечуваны хаос. Няўжо мы ўсе не здолеем паразумецца, з'яднаць усё лепшае, разумнае, плённае, што напрацавана ўсімі намі? Ці помнім мы, што рынку — такога, пра які гаворым,— у нас яшчэ няма? Што мы толькі ўступаем у паласу пераходу да рыначных адносін? І гэты пераход не будзе марш-кідок. Жыццё будзе падказваць новыя рашэнні, а Вярхоўны Савет павінен будзе заканадаўча рэгуляваць. Таму яшчэ і яшчэ раз я заклікаю ўсіх вас, вельмі паважаныя таварышы, да ўзгодненай, разумнай працы, верачы, што ўсе мы ўсведамляем адказнасць перад народам, і ўсе мы хочам зрабіць так, каб нашым людзям стала лепш.

13 кастрычніка 1990 г.

# Палессе Пятра Мысліўца

**Не адразу стаў Мыслівец жывапісцам. У школе асаблівымі здольнасцямі ў маляванні не вылучаўся. У дзесятым класе ўзнікла раптам дзіўнае захапленне: пачаў капіраваць карціны Шышкіна, Левітана, Саўрасава... Потым былі бяскрайнія прасторы казахскіх стэпаў, а затым, калі пайшоў у армію, — таямнічая ўсходняя тайга і велічныя сопкі Сіхатэ-Аліня. Менавіта ў тыя гады, лічыць Мыслівец, штосьці збудзілася ў яго душы. Але канчаткова сіла мастацтва запаланіла яго, калі стаў працаваць шафёрам у сваім родным Драгічыне. У адзін з далёкіх рэйсаў звярнуў Пятро ўвагу на іскрысты вадапад ля шлюза на Белаазёрскім канале. Купіў эцюднік, фарбы і... паспрабаваў нешта перанесці на паперу. Так нарадзілася першая пейзажная работа «Ля старога шлюза».**

**З таго часу ў свой рэйс Мыслівец браў эцюднік і фарбы. Эцюдаў з'яўлялася ўсё больш і больш, карцін таксама. Узнікла жаданне падвучыцца. Паступіў у Маскоўскі народны універсітэт мастацтваў імя Крупскай на завочны факультэт жывапісу і графікі. Вучоба захапіла. Старанна выконваў усе заданні выкладчыкаў, атрымліваў станоўчыя ацэнкі.**

**У 1972 годзе, калі ўрачыста адзначалася 850-годдзе Пінска, юбілею была прысвечана выстаўка творчасці самадзейных мастакоў Палесся. Сярод яе экспанатаў аматары жывапісу ўпершыню заўважылі і адзначылі пейзажныя работы Пятра Мысліўца.**

**Пазней прымаў удзел ва Усесаюзнай выстаўцы «Слава працы», у выстаўцы народнай творчасці ўмельцаў Брэстчыны ў Польшчы. Адбыліся і персанальныя выстаўкі. Вось і нядаўна драгічынцы зноў сустрэліся з работамі П. Мысліўца: у выставачнай зале РДК экспанавалася 50 яго эцюдаў і карцін. Большасць з іх пабывала на розных абласных і рэспубліканскіх выстаўках і прынесла мастаку вядомасць. Гэта «Родныя прасторы», «Вечар на Ясельдзе», «Жыта», «Апошні хутар», «Рэха даўніны», «Бабіна лета», «Зіма меліяратараў», «Балоты адступілі»...**

**Стварэнне кожнай работы — гэта цэлая гісторыя. Вось, напрыклад, адкуль ён узяў сюжэт для карціны «Балоты адступілі». Непадалёку ад Іванава на землях калгаса «Бальшавік» меліяратарам давялося выкарчаваць невялікі ўчастак лесу, які перашкаджаў работам. На адной сасне яны ўбачылі буслянку з выводкам. Падчыстую выкарчаваўшы ўсе дрэвы, людзі пакінулі толькі адну гэту сасну. Многія гады сюды прыляталі буслы, выводзілі дзяцей і зноў адляталі. Стаяла на асушаных балотах адна сасна, і вакол каласілася жыта. Сасна з буслянкаю ў жытнёвым моры — сімвал непераможных сіл прыроды.**

**Сядзім з Пятром Мысліўцом у яго майстэрні, вядзём размову пра карціны і эцюды, напісаныя апошнім часам. Не магу адарваць вачэй ад барвова-ліловага заходу восеньскага сонца на апошняй рабоце мастака. Любуюся гульнёй святла і ценяў на кантрастным палатне «Хмары над возерам Белым»...**

**Пётр Сцяпанавіч марыць стварыць вялікі цыкл работ, прысвечаны жамчужынам Палесся — азёрам. Напісана ўжо некалькі такіх карцін.**

**Ёсць у мастака моцная прывязанасць да тых мясцін палескага краю, якія нібыта самі расказваюць пра сябе. Ён хоча адлюстраваць, увекавечыць найбольш прыкметныя змены ў жыцці палешукоў. Яго прывабліваюць кантрасты нашага часу — металічныя апоры электраперадач і саламяныя стрэхі пакінутых старых хат, колкія стрэлы экскаватараў і спаконвечныя стагі на асірацелых узлесках...**

**— Міне яшчэ дзесятак гадоў — можа знікнуць уся гэтая прыгажосць, — разважае Мыслівец. — Застануцца ў нашай абскубанай памяці толькі апоры электраперадач ды гмахі сянажных вежаў, а ў далечы — роўныя стужкі меліярацыйных каналаў. А вось гэтыя карціны захаваюць для нашчадкаў аблічча нашага часу, будуць выклікаць пачуццё любові і павагі да спадчыны, гісторыі свайго краю.**

**М. ТРАФІМЧУК.**

г. Драгічын.

*Старонкі ўспамінаў*

**Ян СКРЫГАН**

# Той час, альбо Алесь Гародня

ПРА гэтага чалавека я мог бы расказаць даўно, бо ў беларускай літаратуры свайго часу ён быў фігураю не зусім звычайнаю. Пачаць хоць бы з самога прозвішча: Функ Аляксандр Эраставіч. Міжволі падумаеш, што гэта немец. А калі так, то здагадкі пойдуць і далей: што ён дваранін і мае дваранскі тытул барона. Не важна, што гэта будуць толькі здагадкі, бо яны вельмі падобныя на праўду, у іх няма ніякіх супярэчнасцяў. І што будзе папраўдзе дзівіць, дык гэта яго чалавечая сутнасць. Тут колькі хочаш нечаканасцяў: што ён просты, даступны, адукаваны. Выхаваны. Што знаецца з гісторыяй, з літаратураю, у тым ліку з беларускаю. А яшчэ больш: што сам па-беларуску і піша.

Да ўсяго гэтага мне прыемна было памятаць, што ў гады мае маладосці ўсюды прадавалася самая прыдатная на любы, нават вытанчаны абутак паста (тады мы гаварылі вакса), і на вечку бляшанай, круглай, пляскатай скрынькі тлустымі літарамі было выдрукавана кароткае слова: «Функ». Гэтая няхітрая акалічнасць і цяпер прыдавала нашаму знаёмству як бы нейкую даўнасць.

Калі, дзе і як мы пазнаёміліся, не памятаю. У памяці ён астаўся адразу як ужо добра знаёмы. Няйначай як гэта было на кватэры ў Паўлюка Шукайлы, нашага дбайцы і арганізатара «Беларускай літаратурна-мастацкай камуны». Шукайла жыў, як тады здавалася, на далёкай, можна сказаць, ужо загараднай Чырваназорнай вуліцы, у новым, толькі што пастаўленым драўляным доме — гаспадар здаў яго кватаранту на абжытак. У доме была яшчэ толькі такая мэбля: драўляны ложак, абедны стол і два крэслы. Калі мы, літкамунаўцы, збіраліся на свае рэдкалегіі, то рассцілалі на падлозе свае світкі, кажухі ці плашчы, лажыліся наўкруга, у галовах клалі чыю-небудзь папку, каб на ёй можна было раскладаць рукапісы, і пачыналі абмяркоўваць. Толькі адзін Шукайла, як гаспадар і наш кіраўнік, сядзеў за сталом на крэсле. І вось аднаго разу паявіўся сярод нас новы чалавек. Ён быў нават сярод арганізатараў суполкі, але на якую часіну адлучваўся ў Маскву. Ён таксама сядзеў на крэсле з другога боку стала. Гэта і быў Алесь Гародня, масквіч. І мяне гэта, папраўдзе сказаўшы, здзівіла: чаму ён не ў нашым гурце? Нядобра падумалася пра яго.

Аднак жа, калі разыходзіліся, само сабою сталася, што мы пайшлі разам: ні то ён мяне праводзіў, ні то я яго. І не заўважылі, як прайшлі ўсю дарогу ад Чырваназорнай вуліцы да пасажырскага вакзала за гаворкаю. Нават яшчэ каля вакзала пашпацыравалі сюды-туды. І гаворка наша была вельмі патрэбная мне: пра нашу Беларусь і пра яе літаратуру. Галоўнае — пра старажытную: Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, нават пра майго земляка Альгерда Абуховіча, пра якіх я, сазнаюся, да таго часу нават не чуў. Я прыехаў у Мінск, каб вучыцца ва універсітэце, і цяпер з жахам і сорамам адчуў, які я невук.

З гэтакім настроем я вярнуўся дадому, дзівячыся, што ж за чалавек гэты немец, гэты барон, як я яго ахрысціў, каторы гэтак ведае і нашу гісторыю, і нашу літаратуру? І каторы сам піша па-беларуску?

Неўзабаве мы зноў былі на рэдкалегіі. І зноў з Гароднем пайшлі разам. І, вядома, зноў доўга сноўдалі каля вакзала. Я не ведаў, дзе і як жыве ён, але падумаў, што ў такі позні час ісці яму дадому аднаму не надта прыветна, і сказаў, што, можа, мы пераначавалі б у мяне? Ён лёгка згадзіўся.

Я жыў за вакзалам, у Піянерскім завулку, наймаючы ў пажылой жанчыны Мар'і Жакевіч невялікі пакойчык. Мы перайшлі вузкі, доўгі пешаходны мост над чыгуначнымі пуцямі, каля школы павярнулі направа, крутнулі ў кароценькі мой завулак, і былі дома.

У пакойчыку маім месцілася толькі чорная цыратавая канапа, у галавах да сцяны прыліпаў самаробны стэлаж з кнігамі, а пры акне ў двор стаяў невялічкі столік, якога хапала, каб пры рабоце можна было паставіць на ім локці.

Збіраючыся спаць, я намерыўся зняць спінку з канапы, каб яна стала хоць трошкі шырэй. Але Гародня запярэчыў. Сказаў, што ні на чым мяккім ён спаць не можа, яму трэба толькі роўная і цвёрдая пасцель. А таму ён ляжа на падлозе.

Я тут жа сабраў увесь свой адзевак: паліто, розныя коптачкі, доўгі, яшчэ з дому ўзяты кажух, у якім з гонарам хадзіў па Мінску, не баючыся ніякіх марозаў. У галавах пад кажух мы паклалі некалькі няцвёрдых кніг, накрылі іх навалкаю. Выйшла не так і блага. Калі ж сабраліся класціся спаць, я ўбачыў новае дзіва. Пад верхняю белаю кашуляю, якую насіў ён з чорным бантам, аказаўся цвёрды гіпсавы гарсэт, зашнураваны белым шнурком. Я няўцямна глядзеў, як Гародня развязаў верхні вузлік і пачаў расшнуроўваць гэты белы панцыр зверху ўніз. І паставіў яго на падлозе. Я не ведаў, што мне рабіць — распытваць у яго пра гэта ці маўчаць? Я разумеў, што гэта калецтва спіннога хрыбта. След, можа, вайны, а, можа, якая хвароба? Зноў тайна? Але распытваць не стаў. Не такі гэта выпадак, каб пра яго лёгка было гаварыць. І мне тут жа стала горка, што там, у Шукайлы, нядобра пра яго падумаў, калі ён разам з намі не лёг на разасланы на падлозе адзевак.

Потым ён часта аставаўся ў мяне начаваць. І кожны раз хапала ў нас гаворкі бадай што давідна. Мяне вельмі цікавіла, як ён і што піша, але гэтай гаворкі ён не любіў. Сказаў толькі, што для нашай суполкі напісаў аповесць. З вайны. І завецца яна «Варта на Рэйне».

На гэты ж раз, лежачы на кажуху, ён сказаў, што ў яго баліць душа: ён даўно не бачыўся з каханаю жанчынаю. Гэта была новая мне навіна. Яна жыве ў Маскве. Зваць яе Вера Яўграфаўна Сіроткіна. Але ім нельга пажаніцца, бо яны ў нейкай вельмі блізкай роднасці. І яму конча трэба з'ездзіць. Можа, і я з ім праехаў бы? Вядома, я згадзіўся?

У Маскве Гародня адразу знік. Я пасяліўся ў Беларускай гасцініцы на Цвярской вуліцы і дзён тры прыходзіў туды толькі начаваць. У Маскве я быў першы раз, усё мне было навіною. І магазін Елісеева, падобны на святочны кірмаш, і Сенны базар, дзе я не бачыў ніякага сена, і Серпухоўскі рынак з пачварна няўклюдным, тупым будынкам пасярэдзіне пляцу. І Пушкінскі музей дасціпных мастацтваў з белаю, рамантычна маладою фігураю Давіда з прашчаю ў паднятай руцэ пры самым уваходзе; і Храм Хрыста-Збаўцы — дзе, лазячы па крутых прыступках у яго сценах, я падымаўся пад самае скляпенне і любаваўся адтуль і на Маскву-рэчку, і на яе масты, і на далёкія смужыстыя наваколлі; і Траццякоўская галерэя, дзе цуды ў вобразах Івана Грознага, што з вар'яцкімі вачамі забівае свайго сына і абнімае яго галаву; і разудалы Сцяпан Разін; і князёўна Мышкіна; і Запарожскія казакі; і каляровая мяцеліца ў карцінах Малявіна, і душнае ўзрушэнне ў карцінах Ге,— Бог ведае, колькі неспакою ў душы прыносіў я з сабою ў гасцініцу, не могучы заснуць да самага рання. А хіба можна было спакойна прайсці на Краснай плошчы каля помніка Мініну і Пажарскаму, ці каля Лобнага месца, пазней адціснутых на край плошчы? А колькі гадзін прабавіў я, ходзячы па кірмашах старых кніг, што раскладаліся на століках ці проста на бруку бойкіх вуліц!

Вярнуўся дадому я з вялікім смуткам: як многа мне яшчэ трэба бачыць, ведаць і знаць. А Гародня, прыехаўшы, можа, праз тыдзень, як мог супакойваў: усё тваё яшчэ наперадзе. Я рады быў хоць гэтаму супакойванню.

Дарэчы, хочацца мне даць хоць беглы, ці хоць прыблізны вобраз Гародні. Паможа мне гэта зрабіць фотаздымак, змешчаны ў другім нумары «Росквіту». На здымку тым шэсць чалавек: Шукайла з госцем, японскім пісьменнікам Удзяку Акітам, які рабіў падарожжа па СССР і заехаў у Мінск і наша суполка запрасіла яго да сябе ў госці. (Хочацца зрабіць папрок старэйшым суполкам таго часу — «Полымю», «Узвышшу» і «Маладняку». Толькі правінцыйнай фанабэрыяй і хутаранскім зазнайствам можна растлумачыць, што яны пастараліся моўчкі не заўважыць далёкага калегу. Мне да гэтага часу нядобра, калі пра тое ўспамінаю). Дык вось — на здымку тым шэсць чалавек: Шукайла з госцем пасярэдзіне, і чацвёра літкамунаўцаў, што нагадзіліся на сустрэчу. Што Удзяку Акіта чужаземец — адразу відно не толькі па адзенні, а і з твару. Але і Гародня выглядае не зусім сваім. І акуратная прычоска на правы бок, і высокі адкрыты лоб, і роўны класічны нос, і нават акуратна падстрыжаная невялікая бародка — усё як бы наша. Але вочы, пад інтэлігентным пенснэ чутачку больш як трэба прыкрытыя павалокаю, жывуць нейкім нетутэйшым неспакоем. І губы. Таксама з нейкім нетутэйшым скепсісам. Не ведаеш, што яны зараз скажуць. І да ўсяго гэтага ў левай руцэ люлька з кароткім, не гнутым, цыбуком. Вам здаецца, што яна чакае, каб яе закурылі.

Але гэтага ўсяго для партрэта мала. Трэба бачыць Гародню ў хадзе. Мода таго часу патрабавала, каб мужчынскі пінжак быў шчыгульны, а штаны вузкія, асабліва кнізу, і каб сантыметраў на пяць, а можа, нават і больш, не датыкаліся да туфляў. Каб відны былі каляровыя шкарпэткі. Гародня быў сярэдняга, а можа, трохі большага росту. І калі ён шпарка ішоў, а вы глядзелі на яго збоку, у вас перад вачыма мільгаў зялёны колер шкарпэтак. Цыбатыя ногі ў каленях не паспявалі як след разгінацца, і міжволі напрошвалася падабенства, што гэтак ходзяць буслы па балоце. Вельмі хочацца, каб з гэтага ніхто не пасмяяўся, бо я ўпэўнены, што такая хада дыктавалася Гародню яго гіпсавым гарсэтам. Асцярогаю.

Вярнуўшыся з Масквы, Гародня як бы памаладзеў. Ён пачаў многа пісаць. Мне хочацца, каб і чытач гэтых успамінаў хоць чутачку зірнуў на тое, як пісаў Алесь Гародня. З «Варты на Рэйне»:

«...Бжжжж...— пралятае
бжала-куля.
...Бум! Бум!.. Бум!..— рвуцца
снарады.
Недзе збоку тарахціць
кулямёт.
Уперадзе, далёка, каля небасхілу, сцелецца па зямлі дым.—

Завеса.

На францішканскай,—на трэцім паверсе, у пакойчыку, люба свеціць пад чырвоным каптуром электрычная настольная лямпка.

Альфрэд Кляйн — загорнуты ў коўдру, сядзіць у сваім крэсле... Ля яго, на падлозе — Грэтхен. Галаву схіліла яму на калені, і так весела блішчаць і смяюцца — у працягу чатырох гадоў заплаканыя вочкі...

А ён — здаровую леваю рукою лашчыць любыя беласаватыя валасы, і прыгаворвае:

— Нішто, любая... Што было, — тое не вернецца... Мы з табою яшчэ ўбачым неба ў рубінах...»

Вядома, цяпер гэтак не пішуць. Вельмі выразны на манеры пісьма ляжыць свой час. Але ўсё ж і ў ім, здаецца, ёсць нейкая кволая і наіўная мілата.

Паўлюк Шукайла пераехаў на новую кватэру, блізка каля вакзала. Нам стала куды лягчэй збірацца ў яго. Часцей пачалі бываць і прыхільнікі Літкамуны — і мінчане, і перыферыйнікі — з Горы-Горыцкай сельскагаспадарчай акадэміі — Алесь Вечар, Прыбыткоўскі, Юрка Гаўрук. Аркадзь Куляшоў і Юрка Лявонны прыглядаліся да нас з асаблівым цікаўствам, з нейкаю зычліваю насцярогаю. Часцей забягаў і Гародня, балазе гэта было па дарозе да мяне.

Аднаго разу Гародню спатрэбілася зайсці ў аптэку. Добраю славаю карысталася аптэка, што была перад Домам урада. Мы туды і рушылі.

На гэты бок вуліцы ўсе будынкі — цэлыя кварталы — былі ўжо знесены, бо тут пазней зрабілі плошчу. Аставаўся толькі адзін не надта высокі, але ўтульны, ладны, прыгожы сваімі архітэктурнымі формамі дом. Гэта і была аптэка. На тым жа баку вуліцы высіўся бадай што блізкі ўжо да свае дзесяціпавярховае вышыні Дом урада, аплецены рыштаваннямі, з дашчанымі пераходамі з паверху на паверх. Я бачыў, як па гэтых пераходах цяжка хадзілі мужчыны, носячы груз. На спінах у іх была прымайстравана так званая «каза», падобная на высокую скрыньку, толькі адкрытую, з бакавінамі і з дном, у ёй насілася наверх цэгла. Мне ўспомнілася, што зусім нядаўна ў нейкай кнізе пісалася пра тое, як будаваліся егіпецкія піраміды. І быў малюнак, вельмі падобны на гэты: і «каза» на спіне, і цяжкія паклажы, і падыманне яе. Мы ўжо былі каля самае аптэкі, але Гародня рэзка спыніўся, спыніў і мяне.

— Гэта тваё шчасце, што мы з табою толькі ўдваіх,— сказаў ён.— А калі быў бы з намі нехта яшчэ, я прымушаны быў бы пра тваю гаворку сказаць куды трэба. Ты проста дурны,—сярдзіта сказаў Гародня і пайшоў у аптэку.

Гэты эпізод мне часта ўспамінаецца. Аж да гэтага часу. Па розных прычынах. Я ведаю, што на ўсім свеце існуюць законы пра абарону дзяржавы і людзей у ёй. Але ці ўсе спосабы гэтага клопату могуць быць чэсныя? Добраахвотна гэтым займаюцца ці прымусова? І ці было ў Гародні права на выбар? Таўро яго біяграфіі — вядома ж, буржуазнай — не давала яму гэтага права. І яго чэснасць мяне вельмі здзівіла.

Час ішоў. У цэнтральным бюро «Маладняка» кніжачкаю выйшла Гароднева аповесць «На Крэсах», у часопісе «Маладняк» — апавяданне «У паплавах». Апроч прозы, у газетах і ў часопісах «Узвышша» і «Маладняк» друкаваліся яго артыкулы і рэцэнзіі на новыя кнігі. На цяперашняе вока тыя артыкулы выглядалі б, мабыць, прымітыўна, але трэба сказаць, што пісаць іх было і цяжка, і небяспечна — іх кантралявала пільнасць Лукаша Бэнды. Патрэбен быў аголены сацыялагізм і барані Божа не клопат пра нацыянальную літаратуру і спецыфіку літаратурнага твора, бо за гэта аўтар адразу пападаў у самую страшную віну — у нацдэмы.

Потым настаў трывожны час. Раптам у нашай рэспубліцы паявілася безліч ворагаў. Галоўным чынам інтэлігентаў. Бэнда стаў не адзін, яны выступалі ўпэўнена і смела. І сярод першых жа ахвяр зусім непрыкметна знік Гародня. Праз нейкі невялікі час сярод людзей ненадзейных паявіліся прозвішчы Уладзіміра Дубоўкі, Язэпа Пушчы, Язэпа Дылы. Яшчэ праз нейкі час непашаноўна назвалася імя Уладыслава Галубка разам з яго вандроўным тэатрам; не ўсё як належала ішлося і ў тэатры імя Янкі Купалы. Патроху названыя людзі знікалі, адны ішлі ў далёкія ссылкі, другія ў сібірскія лагеры.

(Спыніцца трэба, можа, хіба ўжо на нашым часе, на далікатнай нашай хлусні, якая праходзіць пад знакам маўчання. Пагартайце нашы цяперашнія крыніцы — даведнікі, энцыклапедыі, рэфераты. Пад прозвішчамі людзей сказана ціхенька пра тое, што яны зрабілі за свой век, названы год, калі яны памерлі. А пра тое, што з імі было, чаму рана памерлі або маўчалі, няма ні слова. Хто ж нас прымушае і цяпер фальшывіць? Навошта? Да якога ж часу?)

Але вернемся назад. Наступная баявітая гаворка ў друку пачалася ўрачыста. Нечуваная перакоўка чалавечых лёсаў на Беламорска-балтыйскім канале. Гаварылася і пісалася пра гэта пераможна і ўрачыста. Пісалася ў газетах, у часопісах, рысавалася ў мастацкіх палотнах. Будоўлю на канале наведаў урадавы экіпаж.

Адным з першых адбываў там цуд-перакоўку і цяперашні на ўвесь свет вядомы акадэмік Дзмітрый Ліхачоў.

Вядома, на будоўлю Беламорска-балтыйскага канала паехала і беларуская экскурсія. Здаецца, што ўзначальваў яе Янка Купала. У дэлегатах былі Міхась Лынькоў, Алесь Кучар і, здаецца, Платон Галавач (які пасля таксама не пазбегне трагічнага лёсу). Вярнуўшыся ж, нашы дэлегаты сказалі, што бачылі там і Алеся Гародню. Працуе ў тамтэйшай газеце.

Божа, колькі гэта дало мне болю і гора! Адразу ж перад вачыма паўстаў мне яго гіпсавы гарсэт, зашнураваны белым шнурком на грудзях. Як жа ён там вытрымаў? І ў чым яго віна? Я ж сам быў упэўнены, што без віны не могуць саджаць!

Прайшло недзе каля трох гадоў. Я жыў у тым жа доме ў Мар'і Жакевіч, у тым жа пакойчыку. У галавах за канапаю стаяў той жа самаробны стэлаж з кнігамі. Стаяла ў ім некалькі кніг і Гародневых. Папулярнага на той час літаратуразнаўца Валяр'яна Пераверзева, вучні і паслядоўцы якога Фогт і Саўсун наездам з Масквы выкладалі ў нас ва універсітэце свае дысцыпліны, і філосафа Абрама Дзяборына, кнігі якога я таксама любіў пагартаць, бо чутачку захапляўся гэтым прадметам. Няўжо ж ён выжыў?—думалася мне пра Гародню.

І аднаго разу, зранку, перад маім занавешаным акном у двор прамільгнуў цень чалавека. Потым бразнулі дзверы ў ганку, потым у кухні, потым рэзка адчыніліся дзверы і ў мой пакойчык —увайшоў Гародня. Той самы, у тым жа чорным, толькі добра падношаным паліце, худы, натомлены. Мы пацалаваліся. Гэта было нейкае адно імгненне. Ён паспеў толькі сказаць:

— Дарагі Янка, я вызвалены, ты не бойся, за ўдарную работу. Я ні ў чым не вінаваты. Жыць у Мінску мне нельга, дзе буду —не ведаю, пакуль што еду ў Бабруйск. У мяне няма грошай, тут, можа, асталіся якія мае кнігі, ты можаш прадаць іх, а мне памажы грашыма.

Я кінуўся ў свой кашалёк. Не памятаю, што там было, але мала, кінуўся да гаспадыні. Мар'і Жакевіч. Мы сабралі ўсё, што маглі,— сто рублёў. Зноў расцалаваліся, і Гародня знік за дзвярыма.

# «Выпіць без астатку празрыстыя чары...»

**Пётр Аляксандравіч Масальскі (Пятро Сакол) нарадзіўся 1 (14) ліпеня 1905 года ў мястэчку Пасінь Люцынскага павета Віцебскай губерні (зараз в. Пасіене Лудзенскага раёна Латвіі). Вучыўся ў Пасінскай народнай школе, у Себежскім вучылішчы, Лудзенскай сярэдней школе, у Лудзенскай беларускай гімназіі, на Беларускіх двухгадовых настаўніцкіх курсах у Рызе, некаторы час настаўнічаў у Даўгаўпілскай беларускай дзяржаўнай гімназіі. Пасля ўстанаўлення Савецкай улады працаваў кур'ерам, сакратаром ваенна-следчай камісіі пры рэўтрыбунале. Працаваў пераплётчыкам, кінааператарам, рабочым на тартаку, канторшчыкам, перакладчыкам-карэктарам у рэдакцыі газеты «Голас Беларуса», дарожным майстрам і рабочым-будаўніком. Быў у партыі незалежных сацыялістаў і сябрам Латгальскага рабочага прафсаюза. Падтрымліваў сувязь з падпольнай камуністычнай групай. За гэта часта быў пад арыштам і наглядам паліцыі, урэшце яго пазбавілі права настаўнічаць.**

**Пазней працаваў чарцёжнікам, справаводам Рыжскай беларускай вячэрняй школы, рахункаводам і бухгалтарам фанернай фабрыкі.**

**Калі Пятро Масальскі вучыўся ў Себежы, трапілася яму на вочы кніжачка «Тарас на Парнасе». Неўзабаве адбылося і першае «літаратурнае выступленне» Петрака — у люцынскай кірсе, на мітынгу. Яго паставілі на табурэцік і Пятрок прачытаў на памяць усю паэму ад пачатку да канца.**

**У пятнаццаць гадоў — першыя спробы «нешта мудрыць». Адразу пачаў з п'есы. Але больш удаваліся вершы. Нялёгкае быццё працоўнага чалавека ў буржуазнай Латвіі дыктавала такія радкі:**

**Садзяць у турмы нас, гноюць,**
**за краты схаваўшы.**
**Але дарэмна тыраны**
**сусвет павучыннямі ткуць!**
**З нашых радоў,**
**пурпуровым штандарам з'яднаных,**
**У змену загінуўшым —**
**новых мільёны ідуць! —**

**пісаў паэт ў вершы «Свята працоўных» (Дзвінск, 1.V.1927 г.).**

**І ў самых неспрыяльных умовах паэт-рабочы не кідаў пяра. У 1935 годзе ён зрабіў смелую спробу падрыхтаваць зборнік перакладаў латышскіх народных песень-дайнаў. Тады яшчэ ўвогуле ніхто іх не перакладаў. Але выдаць зборнік ва ўмовах ульманісаўскай рэакцыі не давялося. І толькі ў 1979 годзе падборка дайнаў у перакладзе П. Масальскага ўбачыла свет у штогодніку «Далягляды».**

**Гэта акрыліла Пятра Аляксандравіча. Ён зноў пачаў перакладаць, дапрацоўваць ранейшыя пераклады дайнаў. Зборнік «Дайны» выдадзены «Мастацкай літаратурай» у 1987 годзе.**

**Творчая спадчына Пятра Масальскага невялікая: адзін зборнік вершаў («На світанні», Рыга, 1929г.), асобныя пераклады твораў рускіх, украінскіх паэтаў, пераклады латышскай прозы і паэзіі, народных казак... Але ёсць у гэтай спадчыне такое, што пазначана першынством. Пятро Масальскі быў першым перакладчыкам вершаў Яніса Райніса, першым перакладчыкам на беларускую мову латышскіх дайнаў.**

**Нядаўна «Голас Радзімы» прадаставіў цэлую паласу для вершаў Пятра Сакола. Адзначаючы 85-годдзе беларускага паэта з Латвіі, прапаную яшчэ некалькі вершаў з яго спадчыны. Сёлета спаўняецца 125 годоў з дня нараджэння Я. Райніса. З гэтай нагоды — і некалькі першых перакладаў твораў народнага паэта Латвіі на мову яго сяброў.**

**Сяргей ПАНІЗНІК.**

## Пятро САКОЛ



### Кавалю

Гэй, каваль,— хутчэй да працы!
Распалі у горне жар.
Па жалезу-яскрамёту
Моцна молатам удар!

Хай ліецца звон сталёвы!
Бі! Мацней, дужэй, званчэй!
Молат ўскінь і зноў магутна
Ўдар, грымні хутчэй, гулчэй!

Куй ты меч мне бел-бліскучы,
Бі! Каб іскраў сноп ляцеў!
Каб пад молатам сталёвым
Новы меч пяяў, звінеў!

Я той меч, як жар бліскучы,
Узніму на цемру-ноч.
Той, хто вораг светлай праўды,
Уцякай далёка ўпроч!

14.II.1924. Люцын.

### Над памёршымі дзюнамі

Радзіліся беспатольнымі
З мора сіняй глыбіны,
Як марскія хвалі, вольнымі
І жывымі, як яны.

З паднябесся сонца яснае
Даглядала вас, каб вы
Безруплівымі і шчаснымі
Дні юнацтва правялі.

І над вамі, прыгажухамі,
Вецер песні напяваў;
Жартаўлівымі падзмухамі
Вашы косы расплятаў.

Аб каханні словы смелыя
Ліў няўпыннаю рукой,
Цалаваў вам грудзі белыя,
Хваляй мытыя марской.

Ён вас зваў туды, дзе стужкаю
Уецца далі сінява,
Дзе пуховаю падушкаю
Рассцілаецца трава.

Дзе, спавітае ўсё краскамі,
Так прыемна забыццё,
Дзе чароўнай хмельнай казкаю
Вам здавалася б жыццё!..

І відаць што ўмеў ён зеллямі
Словы-мары наліваць;
Мусіць, ўмеў ён, непаседлівы,
І гарача цалаваць!

Сталі вам, відаць, пастылымі
Ласкі родных берагоў —
І ўдалі ад мора сіняга
Бачу вас паміж палёў!

Што ж!.. Збыліся сны наіўныя:
Ўсюды — далі сінява;
І дыванамі вас дзіўнымі
Спавіла мурог-трава.

Беглі вы за ветра чарамі;
і — прыйшоў жаданы час:
Тое, што здавалась марамі, —
Стала праўдаю для вас!..

Дык чаму ж, замест вясёласці,
Здавалення гордых дум
І былой жывой бадзёрасці, —
Бачу ў вас жалобны сум?

І чаму вы сталі хмарнымі?
Твар адцвіў і пахмурнеў?
І куды з сваімі чарамі
Ваш каханак адляцеў?

І чаму над вамі сосенкі
Гэдак жудасна маўчаць?
Жаль і стогны сумнай восені
У маўчанні тым чуваць...

Вы спіцё... Адны, без мілага.
Жаль нямы у вас жывець...
А ў далі, ля мора сіняга,
Вецер песенькі пяець!..

18.IV.1926. Царскі Лес пад Рыгай.

### Хмаркі

Раскідалі ў небе стравусавы пёры —
Пышныя ўбёры вабючых нябёс...
Я люблю вас, неба белыя ўбёры—
Стравусавы пёры — і ваш думны лёс...

Радуецца неба вечнага улонне:
Вас ў сваё бяздонне захапіў блакіт...
Я хачу вас вырваць з нёбнага бяздоння, —
Ўзяць ў сваё улонне белы аксаміт.

І сплятаць з вас, мілых, залатыя мары,
Ўліць хмяльныя чары ў сумату душы, —
Выпіць без астатку прызрастыя чары
І аб марах крозіць ў красачнай цішы...,

8.VIII.1926. Царскі Лес пад Рыгай.

## Яніс РАЙНІС

### Старасвеччына

... Там светласці цуднай ўсё зяннем спавіта,
Гул ўсякі у спевы і згучнасці зліты;
Па пожнях дзяўчаты вясну заклікаюць,
На ўзгорках Купалля агні палыхаюць.
Спіць бор патаемны і поўны нуды;
Там горы з крышталю, там замкі з вады;
З бяздоння русалкі салодка смяюцца,
Пад месяцам ноччу там зданні віюцца;

Без сонца увечар сіроты спяваюць,
Бяссэрднаму пану прыгон адбываюць...
Ды мелець муку ў моры жудасны смоўж
Для сілай дужэйшых і хітрых умоў;

Ўгары выпаўзае з мінулых вякоў
Старае замчышча з-пад дымупароў...
А сонейка яснае там шматкалёрнае —
Зялёнае, сіняе, крывавачырвонае...

### Сам

У працы для другіх рупісь над развіццём
Ўсіх сіл сваіх ў змаганні несупынным —
І пераможцам выйдзеш вечна нескрушымым,
І ззяннем зброй сваіх зацемніш небыццё.
Ды не бярысь пражыць з жабрацкаю душою,—
Бо, пэўны будзь, загінеш на паўшляху:
Натоўп цябе сатрэ, закідае гразёю...
Змагайся сам, лёс у руках трымай,
Сам будзь гаспадаром, сам шчасце здабывай.

### Песня дзяўчыны

Ах, салавейка, не спявай,
Майго ты сэрца не кранай,
Мне заўтра рана трэба ўстаць,
Пад спеў твой сумны нельга спаць.
Пад песні ў сэрцы жаль дрыжыць,
Кіпіць, і млее, і звініць.
Мне заўтра рана трэба ўстаць.
Без сонца гнуцца-працаваць.
Там пыл, там лямпаў чад-смурод.
Там гінуць сілы з году ў год,
Там без канца, без перапын
Шаснаццаць цягнецца гадзін.
Да рання будзеш ты спяваць,
Да той пары, як мне ўставаць.
Цябе у росы гай ўбярэць,
Мяне ж — ярмо маё прыгнець.
Ах, салавейка, не спявай,
Маё ты сэрца не кранай.

Пераклаў П. МАСАЛЬСКІ.

# У пошуках шчасця

**Знявераны век наш з вялікай асцярогай успрымае ўсё, што нясе ў сабе нейкую неакрэсленасць, незавершанасць. Так хочацца нам гатовых рэцэптаў, а калі сродкаў ад сацыяльных або асабістых хвароб — то абавязкова такіх простых і зручных, як, напрыклад, таблеткі. Быццам бы і чакаем цуду збаўлення — але і ў сам цуд, чакаючы яго, не верым. Зачараванае кола? Калі так, то дзе шукаць выйсце з яго?..**

**З такіх няпростых пытанняў і пачалася наша гутарка з Марынай ГРЫГОР'ЕВАЙ, членам праўлення Беларускага фонду Рэрыхаў. Адзначу, што БФР утварыўся зусім нядаўна з мінскага клуба сяброў Індыі імя Рэрыха і набыў статус грамадскай культурна-асветніцкай арганізацыі.**

*У свеце згублена шчасце, бо шчасце—у духу. Тыя, што адвярнуліся ад духу, павінны паспытаць няшчасця — бо інакш як жа ім вярнуцца...*

*Знакі Агні Ёгі.*

— Такім чынам, Марына, якія ж «рэцэпты шчасця» прапануюць людзям рэрыхаўцы?

**— Напачатку трэба растлумачыць, што рэрыхаўцы — гэта прыхільнікі філасофскіх поглядаў сям'і Рэрыхаў — Мікалая Канстанцінавіча, яго жонкі Алены Іванаўны, сыноў Юрыя і Святаслава. Мы мяркуем, што Вучэнне Жывой Этыкі, у афармленні якога Рэрыхі-старэйшыя прымалі ўдзел нароўні з Махатмамі (мудрацамі, або Вялікімі Настаўнікамі) Усходу, надзвычай гарманічна ўмяшчае ў сабе трыяду Чалавек-Зямля-Сусвет, праясвятляе вялікія законы эвалюцыі чалавецтва і Сусвету. Жывая Этыка «злучае зямную свядомасць з касмічным пульсам» — так гаворыць Вучэнне. Агні Ёгу называюць яшчэ Вучэннем Жыцця, бо яна з'яўляецца адначасова і этычным вучэннем і адказвае на шматлікія пытанні нашай штодзённасці. І што пры гэтым захапляе — на першы погляд разрозненыя з'явы складаюцца ў адзіную, вельмі гарманічную карціну, і тады разумееш: нішто ў жыцці не выпадкова, усё, што здараецца з чалавекам, мае свае папярэднія прычыны.**

**Што датычыцца рэцэптаў шчасця, то нічога новага, на першы погляд, Жывая Этыка людзям не прапануе: жыць сумленна, у міры і згодзе з маральнымі запаветамі, якія бадай што ўсе ведаюць ці адчуваюць. Толькі многія, на жаль, палічылі іх «пройдзеным этапам» развіцця чалавецтва.**

— Першая ж рэпліка, якую вам у адказ кінуць дзесяткі людзей: пакажыце нам таго, хто ў сённяшнім свеце жыве сумленна!..

— ...І я адкажу ім, што па-сапраўднаму духоўна багатыя людзі не рэкламуюць сваю сумленнасць, не робяць яе таварам. Таму і заўважыць іх цяжэй.

— Але заклікі накшталт «жыві сумленна», «будзьце ўзаемна паважлівымі» — такія ж зацёртыя, як, скажам, «не стой пад стралой»...

— У адрозненне ад агульных заклікаў, якія, сапраўды, усім набілі аскоміну, Жывая Этыка прыводзіць зладжаную, навукова выверaную і па-мастацку выкладзеную сістэму доказаў невыпадковасці ўсіх шчаслівых і нешчаслівых з'яў нашага жыцця. Следаванне ж этычным нормам ёсць, па сутнасці, следаванне касмічным законам развіцця матэрыі, а іх ігнараванне, адхіленне ад іх ёсць дысгармонія і, скажам так, база для непрыемнасцей.

— Цікава...

**— Агні Ёга, якая грунтуецца ў гэтых пытаннях на старажытных усходніх традыцыях, сцвярджае, што першапрычынай усіх падзей з'яўляюцца нашы думкі і памкненні. Яшчэ Будда сведчыў сваім вучням: «Думкі кіруюць светам». Думка, як самая высокая і магутная энергія з усіх, што існуюць у свеце і якімі валодае чалавек, традыцыйна лічыцца на Усходзе матэрыяльнай, і ў адпаведнасці з фізічнымі законамі яна не знікае бясследна. Дарэчы, апошнія дасягненні навукі ў гэтым напрамку пацвярджаюць тое, што так даўно спазналі старажытныя мудрацы. Дык вось, кожны чалавек, у адпаведнасці са сваімі думкамі і памкненнямі, акружаны полем дабраты ці зла. Таму Жывая Этыка папярэджвае: «Кожнае брыдкаслоўе ці сварка ёсць ужо хваля цемры. Страшны нож не за поясам, але на кончыку языка. Калісьці давядзецца зразумець, што кожнае слова ці думка непазбыўныя. Кожны, хто падумаў на дабро, можа радавацца гэтаму, і наадварот.**

— Чамусьці ў жыцці больш шанцуе тым, хто «трымае нос па ветру», а не тым, хто змагаецца за праўду і, як вы кажаце, думае на дабро...

— Калі разумець шчасце як нешта, скажам так, утылітарнае — рэчы, кар'ера, нават вядомасць і прэстыж — то, сапраўды, аказваюцца бліжэй да такога шчасця не заўсёды і неабавязкова духоўна багатыя людзі. Але шчасце — гэта не адно і тое ж, што дабрабыт ці слава (якая ўрэшце вядзе да дабрабыту). Шчасце, як я мяркую, гэта згода з самім сабой, гармонія ўнутранага «я» са знешнім светам. А наладзіць згоду ў душы ці можна, не слухаючы яе голас, а менавіта голас сумлення?

— І якой жа можа быць радасць жыцця без матэрыяльнага дабрабыту?

— Чаму абавязкова «без»? Рэрыхаўцы ж таксама жывуць на зямлі, сярод людзей, і проста наіўна яго ўвогуле адвяргаць, не прызнаваць. Але ж дабрабыт — паняцце вельмі рухомае, няпэўнае. Для адных гэта самыя неабходныя рэчы, для іншых — напрыклад, персанальны самалёт ці адпачынак на Гаваях. А радасць жыцця вымяраецца ўсё ж не ў рублях ці выгодах. «Радасць ёсць асобая мудрасць», — нагадвае нам Жывая Этыка. Мы не адмаўляем дабрабыту, але ці той гэта бог, якому варта маліцца, у якога можна верыць і прысвячаць усё жыццё?

— У што ж тады верыць, і ці верыць увогуле?

— А было б карысна, каб кожны паспрабаваў адказаць на гэтыя пытанні сам. У «кансультанты» можна ўзяць такіх знаўцаў чалавечай душы, як, напрыклад, Дастаеўскі, Талстой. Дарэчы, «Споведзь» Талстога, а таксама яго твор «У чым мая вера» заслугоўваюць таго, каб вывучацца ў школе побач з яго мастацкімі кнігамі. Бо пытанне веры. Ідэалу вельмі востра стаіць перад кожным маладым чалавекам. Ды і ў сталым узросце варта ў калавароце будняў знайсці час запытаць сябе: хто я, куды іду, што пакіну людзям?..

— Вы хочаце, здаецца, падвесці мяне да думкі, што Жывая Этыка дапаможа адказаць на гэтыя пытанні кожнаму, хто з ёй пазнаёміцца і будзе ведаць яе мудрыя запаветы?

— Жывая Этыка сцвярджае: «Ведаць азначае прымяняць». Іншымі словамі, сапраўдныя веды «ажываюць», набываюць глыбіню і сэнс толькі тады, калі ёсць следаванне ім у штодзённым жыцці — у сваіх думках, у адносінах да людзей і працы. У кнізе Вучэння «Свет Вогненны» можна прачытаць цікавы, на мой погляд, адказ на ваша пытанне: «Нехта жадаў ведаць пра самыя найвышэйшыя светы, але жыў, як свіння. З'ява памкнення ў вышыню не стасуецца з падрываннем карэнняў. Для свінні — свінарнік».

— Зразумела. Такім чынам, пачытваць Жывую Этыку і не жыць па прынцыпах гэтага Вучэння — усё роўна што займацца плаваннем у басейне без вады...

— Або рабіць ранішнюю гімнастыку не ўстаючы з ложка.

— А ці нельга ўсё ж якнебудзь пражыць шчасліва, не задаючы сабе гэтыя «вечныя» пытанні? Ці толькі шукаючы адказу на іх, перарабляючы сябе, можна быць шчаслівым?

**— «Як-небудзь» пражыць, вядома, можна, але ці шчасліва...**

**Я мяркую, што шчаслівым можна быць толькі на шляху да ісціны, да справядлівасці, да сэнсу жыцця, а не блукаючы ў лабірынтах нейкіх, скажам, атрыманых за кошт іншых ільгот, прывілей, магчымасцей. Сёння, на жаль, многія занепакоены найперш тым, каб як мага лепш уладкавацца ў жыцці, а не каб стаць лепшымі. Толькі для гэтага яны набываюць веды, імкнуцца да ўлады, да папулярнасці, прэстыжных пасад. «Образованное невежество» — страшная хвароба нашага часу. Ніякія дыпломы, вучоныя ступені не вылечваюць маральнай непаўнацэннасці, калі чалавек не абцяжарвае сваё існаванне работай душы. Менавіта «образованное невежество» разбурае веру ў дабро, справядлівасць. Бо людзі вельмі лёгка даюць сябе абхітрыць, калі ставяць знак роўнасці паміж вялікім інтэлектам — і вялікім дабром, паміж высокай пасадай — і высокай справядлівасцю. Трэба ўпарта вучыцца распазнаваць у жыцці «злых геніяў», «разумных нягоднікаў» і памятаць, што іх шмат, яны моцныя і небяспечныя. Але шлях зла — не наш шлях. Ён няўхільна вядзе да разбурэння, катастрофы, самазнішчэння чалавецтва. Альтэрнатыва яму — шлях дабра, спагады, гуманізму, разумнага самаабмежавання. Рэрыхаўцы лічаць, што настаў час клапаціцца не толькі пра сваё, так званае эгаістычнае шчасце, — але і думаць, дзейнічаць кожнаму ў імя шчасця ўсёй нашай планеты, Сусвету, працаваць на агульную карысць.**

— Значыць, і Сусвет зачакаўся нашай дапамогі?

— Несумненна. Чалавецтва вельмі захапілася сваімі зямнымі праблемамі, а людзі — сваімі асабістымі. Вось і забыліся зямляне, што яны — часцінка Сусвету, страцілі адчуванне повязі з ім. Для параўнання ўявім, напрыклад, што правая рука адасобілася ад чалавечага арганізма, ды яшчэ і кожны палец заняты толькі... манікюрам. Ці будзе ў целе лад, гармонія? А мы як дыялектыкі і матэрыялісты павінны разумець падобнасць структур мікра- і макракосмасу, тут дастаткова нават школьных ведаў па хіміі, фізіцы, біялогіі, астраноміі.

— Спачатку мы гаварылі пра кола зняверанасці, адсутнасці веры — і вось «раскруцілі» гэта кола аж да касмічных памераў. Але вашым словам, Жывой Этыцы паверыць, зноў жа, не ўсе...

— Вучэнне сцвярджае, што нішто не знікае бясследна, у тым ліку, нагадаю зноў, і думкі. Калі нехта нават проста пазнаёміўся з імі — і гэта ўжо карысць: даведаўся, што ёсць людзі, якія думаюць і жывуць трохі інакш, чым ён, што ёсць, скажам, не толькі марксізм як вучэнне, але і Вучэнне Агні Ёгі.

— Дарэчы, растлумачце, калі ласка, назву «Агні Ёга». Ці не закладзена ў ёй нешта містычнае?

— Ды не. Сям'я Рэрыхаў, як вы ведаеце, доўгі час жыла ў Індыі, падзвіжнікі вывучалі розныя рукапісы, карысталіся многімі паняццямі і тэрмінамі ўсходніх філасофскіх вучэнняў. «Ёга» ў перакладзе з санскрыта — старажытнаіндыйскай мовы — азначае «яднанне, сувязь», з той жа мовы «Агні» перакладаецца як «агонь». Каб развеяць «містыку», прывяду словы з самога Вучэння: «Завём Агнём усе найтанчэйшыя духоўныя выяўленні, якія сцвярджаюць лепшыя чалавечыя дзеянні».

На заканчэнне хачу пажадаць усім: імкніцеся выявіць — і шанаваць, не засмечваць гэты Агонь у сваёй душы. Гэта і будзе першай прыступкай вашай на шляху да сапраўднага шчасця.

**Гутарку вёў**
**І. ЖДАНОВІЧ.**

## На блакітным экране

**З 29 КАСТРЫЧНІКА ПА 4 ЛІСТАПАДА**

**29 кастрычніка. 18.15**

На атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР. «Бацькаў дар».

**ЛЮБОЎНЫЯ ПЕСНІ.**

Выконвае Акадэмічны хор Дзяржтэлерадыё БССР пад кіраўніцтвам В. Роўды.

**30 кастрычніка. 22.00**

**ЛІРА**
**«КОПІЮ НЕ ЗДЫМАЦЬ...»**

Праблемы захоўвання ў музеі царкоўных рэчаў.

Прамая лінія.

**31 кастрычніка. 19.25**

**«А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...»**

Конкурс гарманістаў і прыпевачніц Горацкага раёна Магілёўскай вобласці.

**3 лістапада. 15.10**

**«САМЫ ГАЛОЎНЫ»**

Творчы партрэт заслужанага дзеяча мастацтваў БССР рэжысёра В. Раеўскага.

Гледачы ўбачаць урыўкі са спектакляў. Пачуюць гаворку сяброў, калег: І. Шклярэўскага, Г. Аўсянікава, А. Мілаванава, С. Картэса.

**3 лістапада. 19.00**

**«АСЯНІНЫ»**

Тэатралізаванае прадстаўленне пазнаёміць з рытуалам памінання продкаў — асеннімі «Дзядамі».

Трансляцыя з Дома літаратара. Арганізатар гэтага відовішча — Беларускі фонд культуры.

**4 лістапада. 12.40, 15.05**

**ТВОРЧЫ ВЕЧАР В. ПАРХОМЕНКІ.**

**4 лістапада. 23.00**

**«ІВЯНЕЦКІ КІРМАШ»**

Фальклорная праграма. Выступаюць удзельнікі мастацкай самадзейнасці Івянецкага ДК і санаторыя «Налібоцкая пушча».

Калектыў Літаратурнага музея Янкі Купалы выказвае глыбокае спачуванне загадчыцы экскурсійнага сектара Чабатарэвіч Марыі Кандратаўне з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — смерці БАЦЬКІ.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и совета Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**Літаратура і Мастацтва**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ, Віталь ТАРАС — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел інфармацыі: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА, Уладзімір ЯГОЎДЗІК — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы: Вячаслаў ЛАПЦІК — 33-24-62; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.